

Мастацкая майстэрня →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Што з культурай у Беларусі →8


http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 13 (2968) Год LVIII | Беласток, 31 сакавіка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


## Дзень Волі — 95 гадавіна

Тэкст і фота Марты БАРАВОЕ

**Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) — незалежная беларуская дзяржава, абвешчаная ў 1918 годзе, пасля больш чым 200-гадовага знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі ад канца XVIII ст., калі Беларуска-Літоўская дзяржава (Вялікае Княства Літоўскае) была гвалтам далучана да Расеі. БНР гэта працяг тысячагадовай беларускай дзяржаўнасці з часоў Полацкага княства. У Трэцяй устаўной грамаце 25 сакавіка 1918 года ў Менску Рада БНР (былога выканаўчага камітэта Усебеларускага з'езда) абвясціла незалежнею Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта быў юрыдычны акт, які ўзнаўляў дзяржаўнасць беларускага народа. Дзяржаўнымі сімваламі першай беларускай нацыянальнай дзяржавы сталі бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня, сталіцай — Менск, дзяржаўнай і абавязковай мовай — беларуская (з 12.04.1918). Беларускую Народную Рэспубліку дэ-юрэ прызналі Украінская Народная Рэспубліка, Летува, Латвія, Эстонія, Чэхаславаччына і Фінляндыя, дэ-факта — Нямеччына, Балгарыя і Турэччына. Абвяшчэнне БНР было вялікім гістарычным крокам Беларусі да ідэйнага асэнсавання сябе як асобнай самастойнай краіны, праявай волі беларусаў да ўтварэння незалежнай беларускай нацыянальнай дзяржавы. Хаця маладая рэспубліка існавала коратка, пасля гэтага і Захаду, і Усходу стала немагчыма ігнараваць дзяржаўныя памкненні беларускага народа.**



Злева: Яўген Вапа, Юры Каліна, Кастусь Бандарук і Мікола Ваўранюк

Упершыню ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі ў 1919 годзе ў Гародні. Пазней святочныя імпрэзы праводзіліся ў шэрагу беларускіх гарадоў і мястэчак, якія апынуліся ў складзе міжваеннай Польскай Рэспублікі. Галоўныя ўрачыстасці звычайна адбываліся ў Вільні.

З нагоды 95-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі дзейная старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла выступіла са зваротам да беларускага народу:

«Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, віншую вас з нашым вялікім нацыянальным святам, угодкамі таго слаўнага 25 Сакавіка 1918 года, калі наш народ абвясціў незалежнасць сваёй дзяржавы. У той памятны год мы афіцыйна перасталі быць абарыгенамі Паўночна-Заходняга краю Расейскай імперыі ды сказалі свету, што мы — і толькі мы — маем права гаспадарыць на нашай — спрадвечна нашай — зямлі. Заняло, праўда, яшчэ больш за 70 гадоў цяжкога змагання, пакуль Беларусь сталася суверэннай Рэспублікай. Але сёння, нягледзячы на здраднікаў, якія перахапілі ўладу, нягледзячы на змушанае маўчанне, Беларусь жыве — жыве ў супраціве гвалту над свабодай, над правамі чалавека і нацыі. Так як мы калісь з году ў год пацяшалі сябе, што ніводная імперыя не вечная і што «загляне сонца і ў наша ваконца», сёння мы таксама ведаем, што дні ўзурпатара палічаныя і ні яму, ні яголным спонсарам не ўдасца ўжо сцерці Беларусь з карты свету. Беларусы — народ цярплівы. Мы цэнім жыццё, але мы не рабы. Няхай дыктатар не думае, што памяркоўнасці і цярплівасці беларусаў няма канца. Наш народ не раз выходзіў «шчыльнымі радамі» бараніць сваю зямлю. З Божай дапамогай, ён і гэтым разам абароніць жыццё рэспублікі сваёй! Жыве Беларусь!»

Святочныя вулічныя акцыі з нагоды 95-годдзя абвяшчэння БНР планаваліся ў розных гарадах Беларусі, але толькі ў Мінску атрыманы быў дазвол улад на іх правядзенне. Партыя БНФ падавала заяўкі на правядзенне акцый у Віцебску, Слоніме, Гродне, Магілёве і іншых гарадах, аднак мясцовыя ўлады па надуманых прычынах адмовіліся задавальняць заяўкі. Свята там праводзілася ў іншых формах — напісаннем дыктоўкі, урачыстымі сходамі ў офісах, укладаннем кветак да памятных месц, звязаных з абвяшчэннем БНР ці з тымі, хто змагаўся за незалежнасць, запальваннем свеч на іхніх магілах. Сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл адзначалі Дзень Волі пад наглядам супрацоўнікаў Слонімскага РАУС. Кантроль за актывістамі быў арганізаваны задоўга да пачатку святочных мерапрыемстваў. Пад нагляд трапіла большасць дэмакратычных актывістаў горада.

У працы аргкамітэта па святкаванні Дня Волі ў Мінску ўдзельнічалі кіраўнікі і прадстаўнікі Партыі БНФ, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, руху «За свабоду», аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і іншыя. 20 сакавіка ва Управе БНФ прайшоў урачысты канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча, прысвечаны 95-ым угодкам абвяшчэння БНР, 22 сакавіка адбылося адкрыццё выставы мастацкай суполкі «Пагоня», прысвечанай 95-ым угодкам БНР, тут жа 23 сакавіка адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная Кастусю Каліноўскаму, Студзеньскаму паўстанню і 95-ым угодкам БНР. Апроч вулічнай акцыі аргкамітэт святкаванняў 95-х угодкаў БНР абвясціў конкурс патрыятычных фотаздымкаў дзяцей з нацыянальнымі сімваламі і конкурс вершаў на тэматыку БНР, незалежнасці Беларусі і любові да Радзімы. Раніцай 25 сакавіка сябры аргкамітэта ўсклалі кветкі да помнікаў Якубу Коласу, Янку Купалу і Максіму Багдановічу. У шэсці па вуліцах Мінска прыняла ўдзел тысяча людзей. На восем затрыманых удзельнікаў Дня Волі ў Менску складзены пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння па артыкуле 23.34 — парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства. Па гэтым артыкуле пагражае альбо адміністрацыйны штраф, альбо арышт на тэрмін да 15 сутак. Больш за трое сутак правялі ў ізалятары віцебскія актывісты Партыі БНФ Леанід Аўтухоў і Кастусь Смолікаў. Іх затрымалі 22 сакавіка ў памяшканні гандлёвага цэнтра, дзе яны раздавалі ўлёткі з запрашэннямі на мітынг 25 сакавіка ў Віцебску. На абодвух склалі пратаколы за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў.

Вечар у гонар 95-годдзя абвяшчэння БНР адкрыў праграму Беларускага тыдня ў Вільні. Ён праходзіў з 25 па 30 сакавіка. Для святкавання Дня Волі каля ста асоб сабраліся ў чэшскай Празе.

З нагоды беларускага нацыянальнага свята абыліся мерапрыемствы ў Польшчы.

У Познані ад Плошчы свабоды шэсце прайшло да помніка Адаму Міцкевічу. Каля ста чалавек узялі ўдзел у шэсці па вуліцах Варшавы. Шэсце пад бел-чырвона-белымі сцягамі пачалося на Плошчы Трох Крыжоў. Калона накіравалася да Замкавай Плошчы, дзе прайшоў мітынг з удзелам вядомых беларускіх палітыкаў і святочны канцэрт, быў таксама пачастунак беларускімі народнымі стравамі. Над удзельнікамі шэсця ўзвышаліся дзесяткі бел-чырвона-белых сцягоў, а таксама сцягі Польшчы і Еўрасаюза. Мерапрыемства прайшло пад патранатам Беларускага дома ў Варшаве, кампаніі «Разам для Беларусі», грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» і беларускай палітычнай сацыяльнай сеткі «InterPolit». Зміцер Бародка, арганізатар акцыі, сустаршыня Беларускага дома ў Варшаве сказаў: «Мы — беларусы, гэта нашае нацыянальнае свята і дзе б мы не былі, мы павінны гэтую дату ўшанаваць. 95 год таму нашыя продкі заклалі першы камень у падмурак нашай дзяржавы, а мы гэтую справу павінны завершыць — адбудаваць наш беларускі дом». У Гданьску з 21 па 23 сакавіка праходзіў фестываль «Салідарныя з Беларуссю». 21 сакавіка ў бібліятэцы Гданьскага ўніверсітэта адбыліся дэбаты на тэму беларускай культуры. 22 сакавіка ў Балтыйскім цэнтры культуры прайшла выстава прац беларускай мастачкі Нікі Сандрас. 23 сакавіка на тэрыторыі Гданьскай суднаверфі ў клубе «Буффет» выступілі гурты «Гаротніца» і «Б:Н».

Беларускае культурнае таварыства „Хатка" ўсклала кветкі на магілах заслужаных беларусаў і да каменя ў гонар Янкі Купалы ў Гданьску і правяло ўрачысты вечар у Сопаце ў сваёй сядзібе.

У сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя беларускія студэнты ў Варшаве сталі святкаваць гэты дзень і з таго часу ўрачыстасці адбываюцца кожны год.

Жыхары Беластока пачалі адзначаць 95-я ўгодкі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі другі раз у праваслаўнай царкве Агія Сафія, дзе прайшоў святочны малебен за беларускі народ. Усе прысутныя праспявалі песню «Магутны Божа». Малебен адслужыў айцец Анатоль Конах. У Беластоку ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа, дзе адбыліся галоўныя ўрачыстасці з нагоды Дня Волі, сабраліся беларусы Беласточчыны. Прыехалі таксама ліцэісты і настаўнікі з Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі. Арганізатары падрыхтавалі між іншым гістарычную прэзентацыю, якую правёў прафесар Алег Латышонак (пра Макара Краўцова, аўтара гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»), і канцэрт гарадзенскага гурту «Людзі на балоце». Вядучы свята Мікола Ваўранюк зачытаў пасланне ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы. Старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа звярнуўся да прысутных з віншавальнай прамовай, упамінаючы імёны адышоўшых летась творцаў беларушчыны — Алены Анішэўскай, Лідзіі Гайдук, Юрыя Гуменюка, Сакрата Яновіча і Міколы Лук'янюка. Моладзь выступіла з мініяцюрамі Сакрата Яновіча. Традыцыйна арганізатары падрыхтавалі бел-чырвона-белыя букеты кветак для асоб, плённа працуючых для захоўвання і развіцця беларускасці на Падляшшы. Сёлета адзначаны: журналіст і каментатар Радыё Рацыя айцец Кастусь Бандарук, рэжысёр Юры Каліна і культуразнаўца, фалькларыст, заснавальнік Музея Малой Айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік.

Святкаванні праводзіліся таксама ў беларускіх ліцэях у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, дзе настаўнікі і вучні рыхтуюць традыцыйны Дзень Волі — адмысловае святочнае мерапыемства для ўсіх вучняў.





# Не глабалізацыя - а лукашызацыя

Дзень Волі ці незалежнасці ў жыцці кожнага народа заўсёды з'яўляецца нагодай для хвіліны рэфлексіі і задумы над пражытым ці будучыняй. Такія дні і даты гэта менавіта тыя нацыятворчыя валуны, на якіх абапіраецца любая дзяржаўнасць. Пры сённяшнім дэстабілізаваным і дэзінтэграваным свеце грамадска-маральных каштоўнасцей зварот да гістарычнай традыцыі і мінуўшчыны з'яўляецца яшчэ тым яднальным момантам адчування супольнасці лёсу і ідэй, што дазваляюць кожнаму народу выжываць у самых цяжкіх гістарычных ці эканамічных паваротах. А што ж дзеецца ў нашай беларускай прасторы? Трэба адназначна, на жаль, сцвердзіць, што ў Рэспубліцы Беларусь супраць беларускім незалежным ідэям, беларускай мове, адукацыі ідзе мэтанакіраваная і спланаваная палітыка духоўнага генацыду. Палітыка ўлад у дачыненні да сваіх грамадзян, паводле ўсіх прызнакаў, нагадвае не дэмакратычныя, а ўсё больш нейкія акупацыйныя стандарты. Палітычныя вязні і сотні палітычных уцекачоў, нацыянальная і гістарычная сімволіка пад забаронай і карай, сціранне гістарычнай памяці, абсалютная русіфікацыя штодзённага жыцця праз адукацыйна-адміністрацыйна-медыйныя сферы жыцця, дзесяткі тысяч эканамічных бежанцаў, паўсюдны страх і пераслед з боку апарату ўлады і яе сілавых і судовых структур — гэта, на жаль, беларуская рэальнасць. Для нас, беларусаў Беласточчыны, калі глядзім на тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі, проста не хочацца верыць у бачанае і чытае. Але адначасна — трэба выразна тут сказаць — не можа быць на такое нашай згоды. І гэта не аніякія ў беларускай рэчаіснасці працэсы глабалізацыі становяцца зараз пагрозай для нашай нацыі, але наступаючая дыктатура лукашызацыі. Таму, калі ў ліпені гэтага года мае прайсці чарговы З'езд беларусаў свету „Бацькаўшчына", то нам трэба ўсур'ёз задумацца і асэнсаваць як рэальнасць духоўнай бацькаўшчыны ўздзейнічае і на нашае быццё беларусамі па-за межамі Беларусі. Калі мы сёння ўшаноўваем 95-ю гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, то менавіта памятайма, што яна стваралася дзеля забеспячэння інтарэсаў беларусаў на іх усіх этнічных землях у страшны перыяд разбуральнай Першай сусветнай вайны. І на гэты агульнабеларускі кліч нацыянальна-дзяржаўных ідэй у сакавіку 1918 года абыякавымі не засталіся і беларусы Беласточчыны. Зерне кінутае амаль сто гадоў таму назад усё ж яшчэ дае плён і за гэта дзякуем і схіляем галовы перад нашымі продкамі, для якіх слова бацькаўшчына было не пустым, але самым дарагім словам, за якое часта ахвяроўвалі самае цэннае — сваё жыццё. Дзякуючы акту 25 Сакавіка мы атрымалі нацыянальны падмурак, на якім маем не толькі права, але і абавязак пабудаваць беларускі дом, зыходзячы з мараў нашых продкаў і адказнасці перад родным сённяшніх і будучых пакаленняў.

Перад нашым беларускім домам тут, на Беласточчыне, таксама стаіць шмат пытанняў наконт далейшай будучыні. Па незваротных жыццёвых працэсах у гэты другі, лепшы свет адыходзяць цэлыя пакаленні, для якіх беларуская мова, народная мудрасць і сіла, былі аўтэнтычна высмактанымі з малаком маці. Пакідаюць гэтае зямное імгненне тыя ж нацыянальныя самародкі і веліканы, што стваралі і бурлівай шырокай ракой разліліся па палетках „Нівы" і Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", а таксама з энтузіязмам навучалі беларускай мове, стваралі самадзейныя тэатральныя гурткі, засноўвалі фальклорныя калектывы і гурткі Беларускага грамадска-культурнага таварыства. З-над Буга, Нарвы, Бобры беларускае слова імгненна з сялянскай простай мовы расцвіло прыгожым, літаратурным пісьменствам. Таму вельмі сардэчна віншуем усіх „белавежцаў" з іх 55-гадовым юбілеем і аграмадным укладам у нашае нацыянальнае жыццё і агульнабеларускую культуру. Сузаснавальніку гэтай творчай групы і першаму рэдактару „Нівы" Георгію Валкавыцкаму перадаем прывітанні з нагоды дастойнай даты — 90-х угодкаў з дня нараджэння. Спадар Георгій — вялікае Вам дзякуй за шматгадовую, карпатлівую, рэдактарскую і чалавечую аддачу нашаму роднаму слову.

Перад намі зараз стаіць вялікі выклік. Трэба навучыць яшчэ сённяшнія і наступныя пакаленні чытаць, пісаць, размаўляць і думаць па-беларуску, сумяшчаць духоўнае з родным, захоўваць і паказваць моўнае і гістарычнае багацце нашай падляшска-беларускай зямлі. Было б пэўна нам тут лягчэй, каб ідэі незалежнай беларускай, дэмакратычнай дзяржавы па змесце і форме ажыццяўляліся як найхутчэй . Але нам тут, на Беласточчыне, здаўна вядома, што нягледзячы на ўсё і ўсіх пра свае справы і так павінны мы гаварыць самі. Памятаючы пра такія дні і падзеі як акт 25 Сакавіка, ведайма, што тое ўсё, зробленае тут усімі намі, праз усе гэтыя гады — гэта рэальны ўклад у жыццё і нашай духоўнай Бацькаўшчыны — Беларусі. Таму і наш кліч: Жыве Беларусь!

**Яўген ВАПА**



# Швейцарац у валёнках

Дакладнасць швейцарскага гадзінніка з'яўляецца праславутай. Нешматлікія, аднак, ведаюць, што сам механізм гэта адна справа, а ідэя, якая натхняе яго распрацоўшчыкаў, гэта зусім іншае. А ідэя сама па сабе вельмі простая. Яна патрабуе, з аднаго боку, павагі да канчатковага прадукту на кожным этапе яго выканання, з другога боку, павагі для ўсіх, хто прымае ўдзел у яго стварэнні. Пачынаючы з распрацоўкі і выканання яго маленькіх частак, канчатковага размяшчэння механізма і ўбудавання яго ў адпаведнае вечка, кожная з гэтых аперацый павінна быць выканана з натхнёнай дакладнасцю. І не менш, і не больш, проста выдатна. Умова адна: людзі павінны верыць, што ідэя сумленнай працы каштуе намаганняў. Такім чынам, гэта ідэя робіць з простага гадзінніка рэч вытанчаную і ўсімі пажаданую. Параўнайце, напрыклад, кітайскія падробкі, якія з'яўляюцца сінонімам галавацяпства. Быццам бы ўсё ў іх у парадку з архетыпам, але канчаткова штосьці не так у іх спрацоўвае. Хтосьці быў засмучаны гідкім жыццём і нешта на мікрон не дагладзіў, хтосьці, злосны на нізкую заробатную плату, часгось недабачыў і... звіхраваны недахопам натхнёнай ідэі механізм ляціць у смятніцу. Такім чынам, ідэя з'яўляецца нечым накшталт звышмеханізма, дзякуючы якому ўсё працуе як швейцарскі гадзіннік. Але справа ў тым, што ідэю нельга пакінуць самой сабе. Трэба яе безупынна выпраўляць і адаптоўваць да чалавечых магчымасцей. Карацей кажучы, ідэя павінна спець павольна, як швейцарскі сыр, у адпаведнасці з рытмам унутраных працэсаў, што робіць яго смачным кусам для чалавека, а не сырападобным рвотным рэчывам.

Аляксандр Лукашэнка з задавальненнем паказвае на запісці супердарагі «швейцарац». Ці быў бы гэта выраз прэзідэнцкай тугі па «швейцарскай» ідэі? Ці марыцца яму Беларусь як краіна справядлівасці, росквіту і паўсюднай шчаснасці? Дык чаму грамадзяне не жадаюць быць такімі шчаслівымі, справядлівасць таксама разумеюць інакш чым прэзідэнт, але і пра дабрабыт лепш наогул не згадваць пры іх, бо пачынаюць кіпець як самавары? Тым не менш, Лукашэнка, выручаючыся на свой швейцарскі гадзіннік, пераканаы, што яго стрэлкі паказваюць суграмадзянам падказкі паводзін у правільным кірунку. Толькі што народ здурэў, таму што стрэлкі ўсё носяцца вакол восі. Раз добрае гэта, іншы раз другое. У іншы раз тое, у іншы раз нешта яшчэ іншае. І ўсё ідзе да чорта. Нягледзячы на гэта, Лукашэнка настойвае на тым, што Беларусь можа стаць за адно пакаленне другой Швейцарыяй. Забываецца, аднак, што швейцарская ідэя гэта сутнасць шматлікіх горкіх вопытаў многіх і многіх пакаленняў. А і так большасць швейцарцаў не можа дазволіць сабе дарагія гадзіннікі. Ды ў змозе іх мець Аляксандр Лукашэнка. Дзіўна, аднак, назіраць як ягоны гадзіннік ходзіць гэтак кульгава.

Завод у Смілавічах пад Мінскам вырабляе 170 тысяч пар валёнак у 30 узорах. Усе яны выдатныя. Попыт на іх, таксама ў Польшчы, проста шалёны. Гэта даказвае, што, нягледзячы на некалькі дзесяцігоддзяў савецкай варварызацыі, у схованках беларускага менталітэту выжыла высокая культура працы. Акрамя таго, яна бачна ў шэрагу высокатэхналагічных прадуктаў Беларусі. Чаму так мала хто ведае іх у свеце? Валёнак, па сутнасці, незалежна ад таго, ці паўстаў у майстэрні рамесніка, ці на заводзе, гэта глыбокая філасофія творчасці, якая сягае многія пакаленні назад. Яна заснавана на павазе чалавека як да выконванай працы, так і да прадмета, які з'яўляецца творам гэтай працы. І, нарэшце, таксама і да чалавека, які яго набудзе. Савецкае варварства адарвала чалавека ад большасці яго твораў. Вось чаму ніхто не хоча іх купляць. Але валёнак з'яўляецца адным з апошніх артэфактаў забытай філасофіі тварэння. Валёнкі — шэдэўр чалавечага геню, цярпліва ўдасканальваны з пакалення ў пакаленне. Гэта швейцарскі гадзіннік сярод абутку. А гэта значыць, што дух працавітасці і натхнення чалавека можа быць перададзены ўсім галінам прамысловасці. І на ўсе аспекты жыцця. Я не жартую! Ідэя валёнка можа збудаваць другую Швейцарыю — Беларусь. Звычайная пагаворка, што нешта ходзіць як швейцарскі гадзіннік настолькі дакладная, наколькі швейцарскі гадзіннік ходзіць у беларускіх валёнках. На жаль, «швейцарац» беларускага прэзідэнта не хоча нават чуць пра іх.

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Экспазе міністра замежных спраў



Ад гадоў у першых месяцах кожнага года я ўважліва слухаю сеймавыя выступленні польскіх міністраў замежных спраў. Так было і цяпер, 20 сакавіка, калі Радаслаў Сікорскі, шосты раз запар з трыбуны ніжэйшай палаты парламента прадставіў планы свайго ведамства і шырэй урада ў адносінах да польскай замежнай палітыкі ў гэтым годзе.

У першыя некалькі хвілін разгарнуў амаль імперскае бачанне Польшчы:

— У сувязі з хваляваннямі на Поўдні і астраўной адлегласцю Вялікабрытаніі ў нас ёсць шанц увайсці ў самае бліжэйшае асяроддзе, якое прымае рашэнні ў Еўрапейскім Саюзе.

Значную частку сваёй прамовы прысвяціў міжнародным эканамічным пытанням. Было таксама шмат аб глабальнай палітычнай сітуацыі, але я чакаў, як звычайна, матываў датычных усходняй палітыкі. У гэтым урыўку можна было пачуць:

— Для нас, і для Еўропы XXI стагоддзя будзе важна, якую цывілізацыйную прыналежнасць выберуць народы Усходняй Еўропы. Мы з'яўляемся актыўным прапагандыстам палітыкі партнёрства ЕС. Тым не менш, мы разумеем, што прагрэс у кірунку дэмакратыі, вярхоўнства закону і мадэрнізацыі залежаць у асноўным ад іх саміх. Мы ўскладаем вялікія надзеі на лістападаўскі саміт Усходняга партнёрства ў Вільні. Поўным поспехам мы лічым падпісанне кантрактаў — асацыяцыйнага і свабоднага гандлю з Украінай і завяршэнне перамоў па аналагічных пагадненнях з Малдовай, Грузіяй і Арменіяй. Мы імкнемся ахапіць грамадзян Грузіі, Украіны, Малдовы, Расіі бязвізавам рэжымам.

Пры нагодзе адзначыў:

— Хаця ўцешымся, калі віз ужо не будзе, у нас ёсць задавальненне, што пакуль візавы рэжым у сіле, нашы ўсходнія суседзі ў асноўным прыходзяць для віз у польскія консульскія ўстановы. У 2008 годзе мы выдалі 534 тысяч віз, а ў папярэднім — больш за 1,3 мільёна. За чатыры гады наступіў рост на 143 адсоткі. Адмянілі мы візавы збор для нацыянальных віз для грамадзян Украіны, Беларусі, і ў апошні час — Малдовы.

Адразу ж пасля гэтага дадаў:

— Дзякуючы дзеянням Польшчы атрымалася запусціць еўрасаюзны фонд у памеры 37 мільёнаў еўра, накіраваны на грамадзянскую супольнасць шасці краін-удзельніц Усходняга партнёрства. Мы хадайнічаем за поўнае адкрыццё праграмы Эразмус для ўсіх, для тысяч студэнтаў з гэтых краін.

І, нарэшце, сама чаканая мая тэма — трохі пра Беларусь:

— Грамадзянскую супольнасць таксама будзем падтрымліваць у асноўным у Беларусі, у тым ліку праз пасрэдніцтва Еўрапейскага фонду за дэмакратыю. Мы рады, што нашы намаганні па яго заснаванні аказаліся паспяховымі і польскі кандыдат — Ежы Памяноўскі — быў абраны яго першым дырэктарам. Фонд будзе садзейнічаць дэмакратыі ва ўсім суседстве Еўрасаюза. У Польшчы яго партнёрам будзе Фонд міжнароднай салідарнасці. Гэтая і іншыя ініцыятывы прадэманстроўваюць нашу рашучасць, каб — асабліва ў выпадку неспрыяльнай палітычнай атмасферы — падтрымліваць і развіваць дыялог на нізавым узроўні. Умацоўваем таксама Супольнасць дэмакратыі — мы стварылі пастаянную прававую базу для функцыянавання яе Пастаяннага сакратарыята ў Варшаве. Мы ўстанавілі штодруюю Прэмію салідарнасці — якую мы хацелі б упершыню ўручыць у гэтым годзе, у гадавіну Жнівеньскіх пагадненняў.

Я паслухаў сёлетняе экспазе міністра замежных спраў, дык пачакаю да наступнага года, чарговага. Тым часам тры дні пазней я святкаваў Дзень Волі ў Варшаве. Я азіраўся вакол, але ж самога Радаслава Сікорскага не ўбачыў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Майстэрня мастацкіх тэхнік у Гайнаўскім белмузеі

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Адкрыццё выстаўкі прац удзельнікаў Майстэрні мастацкіх тэхнік, якую ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы вядзе мастак Данель Грамацкі, адбылося 7 сакавіка. На экспазіцыі можна ўбачыць плён 2012 года — жывапіс, графіку, лінарыт, рысунак і працы, выкананыя іншымі тэхнікамі, аўтарамі якіх з'яўляюцца моладзь і дарослыя жыхары Гайнаўшчыны. На выставе прэзентуюцца таксама малюнкі некалькіх гайнаўскіх дзетак, якія займаліся ў белмузеі. Адны з іх у музейнай майстэрні ставілі свае першыя крокі ў галіне мастацтва, іншыя ўжо раней малявалі або рысавалі. Прыходзілі яны на заняткі, каб павысіць свае ўмеласці і навучыцца новым мастацкім тэхнікам.

— Сярэдні ўзрост удзельнікаў майстэрні — каля 30 гадоў. Наймалодшай нашай удзельніцы — 7 гадоў, а найстарэйшым — больш за 50 гадоў. На заняткі прыходзілі 18 чалавек, — заявіла ў час адкрыцця выстаўкі Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея, адказная ў музеі, між іншым, за мастацкую частку. Была яна таксама ўдзельніцай майстэрні з мэтай здабыць новыя ўмеласці, бо тэарэтычныя веды здабыла яшчэ ў студэнцкія часы ў Вроцлаўскім універсітэце, на спецыяльнасці гісторыя мастацтва.

— Дома цяжка прымусіць сябе маляваць. Не ва ўсіх ёсць умовы, каб у асобным пакоі займацца станковым жывапісам. У музеі былі адпаведныя ўмовы для малявання, рысавання і заняткаў па іншых мастацкіх тэхніках, такіх, як хаця б лінарыт. Па суботах была мабілізацыя да творчай працы, — дадала Агнешка Ціханюк.

— Перш за ўсё я пазнаёміў удзельнікаў майстэрні з асновай мастацкага варштату і вучыў розным мастацкім тэхнікам. Займаліся мы жывапісам, рысункам, графікай, выконвалі акварэлі, акрыльныя работы, пастэльныя працы, работы ў лінарыце і працы мяшанымі тэхнікамі. Адны ўдзельнікі майстэрні рабілі першыя крокі, а іншыя, больш вопытныя, даведаліся аб сваіх магчымасцях і шукалі найлепшай сабе тэхнікі, — сказаў музейны настаўнік Данель Грамацкі.

— Данель Грамацкі цікава вёў заняткі, вучыў неабходным падставам у мастацтве. Мне самымі важнымі былі яго парады і заўвагі, бо без нагляду немагчыма навучыцца маляваць ці рысаваць. Толькі пазней можна павышаць свае ўмеласці, — сказаў наш карэспандэнт Славамір Кулік, які на заняткі прыязджаў ажно з Грабаўца, дзе зараз найчасцей прабывае. Вядомы ён перш за ўсё як фатограф, аўтар мастацкіх здымкаў, якія паказваў публічна. Яго першыя мастацкія працы таксама цікавыя.

З ліку ўдзельнікаў Майстэрні мастацкіх тэхнік хіба самым вядомым на Гайнаўшчыне з'яўляецца дырэктар Воднага парку ў Гайнаўцы Мірaслаў Хіліманюк, які ў час апошняга Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі заняў першае месца ў катэгорыі жывапісу. Свае працы на гэтым аглядзе паспяхова прэзентавала і таксама перамагала бібліятэкарка па прафесіі Тамара Кердалевіч, якая прыязджала на музейныя майстар-класы ажно з Чаромхі. Данель Грамацкі звярнуў яшчэ ўвагу на іншых здольных мастакоў-аматараў, між іншым на Багуславу Чаркоўскую, Яраслава Гацкевіча, Агнешку Ціханюк.

— Мы раней прымалі ўдзел у мастацкіх занятках у Гайнаўскім доме культуры і там вучыліся падставам у Зінаіды Якуць. Тут заняткі падобныя, але адначасна больш разнародныя. У музеі мы мелі магчымасць навучыцца новым тэхнікам, — гаварылі Юлія Пракапюк і Ганна Пазнаньская з Новага Беразова. Найбольш спадабаліся ім алейная тэхніка і графіка. Дадалі, што найбольш даспадобы ім жывапіс.

— Я многаму навучылася ў час заняткаў. Асабліва спадабаліся мне рысунак і графіка. Аднак хацела б лепш навучыцца жывапісу і выконваць працы алейнай тэхнікай, — сказала Іаанна Кісялеўская.

Іншыя ўдзельнікі музейных заняткаў таксама гаварылі, што іх мара — выконваць алейныя карціны. Аднак алейныя работы патрабуюць немалых сродкаў на палотны і фарбы.

— Мае ўражанні ад удзелу ў занятках майстэрні вельмі добрыя. Падабаліся мне праца алоўкам, тушшу. Мела я нагоду пазнаёміцца з іншымі тэхнікамі, — гаварыла Кінга Пуц.

Заняткі Майстэрні мастацкіх тэхнік адбываліся найчасцей у музейным будынку, але быў таксама пленэр у Дубічах-Царкоўных. Апрача малявання з натуры, удзельнікі майстар-класаў выконвалі таксама працы па ўяўленні, малявалі са здымкаў. На выстаўцы можна ўбачыць прыгожыя краявіды, партрэты, нацюрморт і іншыя цікавыя матывы.

— Сярод удзельнікаў майстэрні ёсць здольныя асобы, якія маюць вялікі патэнцыял, каб стаць мастакамі. Аднак дзеля гэтага мусяць самі вельмі многа працаваць і прадаўжаць адукацыю ў галіне мастацтва, — сказаў Данель Грамацкі і дадаў, што ў 2013 годзе ў час другога выпуску музейнай майстэрні мае намер вучыць як, карыстаючыся ўлюбёнымі тэхнікамі, правільна ствараць кампазіцыю, падбіраць колеры, кантрасты і іншыя прыёмы, патрэбныя ў мастацтве. Калі майстэрня прадоўжыць сваю дзейнасць у 2014 годзе, то тады прадугледжваецца курыраваць развіццё таленту мясцовых здольных мастакоў. Данель Грамацкі жыве ў кватэры ў блоку, дзе мала месца для малявання. Таму яго мастацкія работы зараз таксама паўстаюць перш за ўсё ў белмузеі, дзе ў яго свая майстэрня, у асобным памяшканні.

— Майстэрня мастацкіх тэхнік дзейнічае ў рамках праекта «Прыгранічны этнічны альянс», які фінансава падтрымліваецца Упраўай горада Гайнаўка і Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства, — сказала Агнешка Ціханюк, адказная за рэалізацыю праекта ў галіне мастацтва. — У рамках «Прыгранічнага этнічнага альянсу» адбываліся таксама ганчарскія майстар-класы, выконвалася біжутэрыя з узорамі, быў наладжаны марафон «Пагоня за фільмам», ладзіліся канцэрты «Музыка без засцярог», арганізаваўся фотаконкурс «Падляшша ў аб'ектыве» і праводзіліся іншыя мерапрыемствы.





Удзельнікі Майстэрні мастацкіх тэхнік на адкрыцці выстаўкі

— Мастацкія майстар-класы ў музеі праходзілі на высокім узроўні. Данель Грамацкі сумеў зацікавіць сваімі заняткамі многа асоб і гэта наш поспех. Хочам пры дапамозе мастацтва, музыкі і культуры ў шырэйшым маштабе інтэграваць грамадства Гайнаўшчыны, перш за ўсё малодшае пакаленне. Побач беларусаў у нашых мерапрыемствах прымаюць удзел палякі, а побач праваслаўных — каталікі і людзі іншых веравызнанняў. Яны знаёмяцца з жыццём мясцовых беларусаў і дзейнасцю музея. У конкурсе «Падляшша ў аб'ектыве» прымалі ўдзел таксама жыхары розных куткоў Польшчы, якія фатаграфавалі Падляшша. Аднак мы хочам перш за ўсё дайсці да моладзі і інтэграваць нашых маладых людзей, — гаварыў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк. — Маладыя асобы з беларускіх сем'яў, якія раней адчувалі прыналежнасць да польскай культуры, пасля заняткаў і канцэртаў у нашым музеі пачынаюць глядзець на беларускую культуру і беларускасць з цікаўнасцю. Маладыя палякі, якія раней не цікавіліся беларускай культурай, пабываючы на нашых мерапрыемствах, пачынаюць цікавіцца нашай музыкай і мастацтвам.

## Камунальныя кватэры

У канцы мінулага года ў Беластоку здалі ў карыстанне камунальныя жылыя блокі па вуліцы Барсучай, а ў іх 87 кватэр. Кватэры пабудавала гміна. У 2012 годзе на пабудову камунальных памяшканняў Беласток прызначыў 7 мільёнаў злотых

Сёлета горад пабудуе тры чарговыя блокі па вуліцы Кляпацкай. Будзе ў іх 60 камунальных кватэр. У гарадскім бюджэце на пабудову блокаў адвялі 4 млн. зл. Кватэранаймальнікі прыйдуць жыць у шматсямейныя будынкі па вул. Кляпацкай у канцы будучага года.

Гэта не канец інвестыцый. Новы камунальны жыллёвы пасёлак будуць будаваць па вул. Бэма, за сядзібай пагранічнікаў. Тут у гміны васьмігектарны ўчастак пад жыллёвае будаўніцтва. У першым этапе горад паставіць тры жылыя блокі. Будзе ў іх 171 кватэра для маламаёмных беластачан. Варта дадаць, што камунальныя кватэры ў Беластоку — запатрабаваныя. Штогод перад уладамі за камунальныя кватэры хадайнічае каля 500 гараджан.

## „Ніва” пісала і...

Пісаў я пра засохлыя дрэвы, якія стаяць пры вуліцах Беластока. Вось цытата з допісу: „Засохлыя дрэвы...” („Ніва” № 40 ад 30.09.2012 г.): „Небяспечна хадзіць пад імі тады, калі дзьме вецер. Зараз тры сухія дрэвы знаходзяцца ў пачатку вуліцы Сянкевіча. (...) Сухія дрэвы ёсць ля скрыжавання вуліц Браніцкага і Электрычнай”. Пісаў я далей таксама пра засохлыя ліпы пры вуліцах 27 Ліпеня і Баранавіцкай. Ды яшчэ, што сухія дрэвы неабходна ссячы. Будуць дровы на зіму.

У канцы мінулага — 2012 — года праверыў я, што далей з тымі засохлымі дрэвамі. Аказваецца, іх ссеклі. Крытыка дапамагла. **(яц)**

## Абвяржэнне!

З апошняга абзаца маёй карэспандэнцыі, якую «Ніва» апублікавала 17 сакавіка г.г. вынікае, што я калісь, калі «вучыўся беларускай мове», карыстаўся, як дапаможнікам, «Зоркай».

Калі я вучыўся беларускай мове ў пачатковай школе ў Махнатым, а гэта былі 1949-1956 гады, вучыўся па падручніках беларускай мовы — былі такія. Першыя нумары «Нівы» паявіліся ў 1956 годзе, а «Зоркі» — крыху пазней, калі яе чытанне тады, думаю, мяне ўжо не цікавіла. Для маладога пакалення журналістаў «Нівы» здаецца, што «Ніва» з «Зоркай» існавалі заўсёды, і кожны, хто «вучыўся беларускай мове», выкарыстоўваў іх у якасці дапаможнікаў.

Змест дасланага абзаца ў рэдакцыю быў такі:

«А так пры нагодзе, калісь, калі вучыў я беларускай мовы, яшчэ помню пра гэта, вялікім дапаможнікам на ўроках была «Зорка», ці то апавяданнямі, ці то вершамі, ці то сказкамі ці іншымі тэкстамі, звязанымі з праграмай навучання. А як зараз?»

З гэтага сказа вынікае, што калі я **вучыў** беларускай мовы вучняў у школе ў Трывежы, то карыстаўся «Зоркай» як дапаможнікам на ўроках. З падручнікамі, актуальнымі на той час, як відаць, былі праблемы.

Абвяржэнне як абвяржэнне, але крышку гісторыі беларускай асветы.

**Міхась КУПТЭЛЬ**




■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Рэцэпт на сямейнае шчасце



Ужо шэсцьдзесят тры гады яснае сонца асвятляе жыццёвы шлях Надзеі і Аляксандра Алекшаў з Піражкоў, што ў Шудзялаўскай гміне. Продкі спадара Аляксандра і спадарыні Надзеі жылі ў гэтым месцы спакон вякоў, таму іх юбілей стаў сапраўдным вясковым святам. Славутае мерапрыемства было наладжана ўдзячнымі дзяцьмі і ўнукамі, якім юбіляры прысвяцілі ўсё сваё сумеснае жыццё. Якім яно было, чытачам „Нівы” шчыра распавяла верная жонка, маці, бабуля і прабабуля Надзея Алекша.

Вянчалася яна на дваццаць сёмым годзе жыцця з малодшым на чатыры гады Аляксандрам.

— Праўду сказаўшы, — аб’ясняе юбілярка, — яму яшчэ не трэба было б і жаніцца, каб гэта бацькі жылі. Калі Аляксандр вярнуўся з войска, яго маці ўжо не было ў жывых. Я была не найбяднейшая, з розумам і ягоны бацька сам падказаў, каб са мной жаніўся. Аляксандр мне падабаўся, быў малады, прыгожы, спакойны. Зараз да маіх бацькоў прыйшлі сваты з гасцінцам, а праз тры тыдні адбылося нашае вяселле.

Паводле спадарыні Надзеі ключом да ўдалага, сямейнага жыцця з’яўляецца згода.

— Трэба быць разам у бядзе і радасці, і абавязкова ўступаць адзін другому, — раіць яна. — Так, першыя супольныя два гады пражылі мы ў бядзе, а што ж тым сярпочкам нажнеш. Тады ні святла, ні гадзінніка ў хаце не было. Да таго амаль трыццаць гадоў трэба было апекавацца цесцем. Так надумаўся мой мужык выехаць у Беласток на заробкі. Не было лёгка. Каб дабрацца да бліжэйшага аўтобуса, трэба было пехатою ў Востраў альбо Крынкі ісці. Спачатку выехаў на месяц. Папрасіўшы майго дазволу, вярнуўся туды на цэлых дваццаць восем гадоў. У цэлым годзе Аляксандр меў толькі два тыдні выхадных. Суботы тады былі працоўныя. Зарабляў добра, а яшчэ „выпраўку” на кожнае дзіця з работы прывозіў. Дзяцьмі і гаспадаркай трэба было мне адной заняцца. Дзеткі раслі працавітымі, і адно другому дапамагалі, апекаваліся. Мой найстарэйшы сын Ваня, вярнуўшыся са школы, нават у хату не заходзіў. Кідаў заплечнік і бег мяне выручаць. Дзеці дапамагалі і ў пабудове новага мураванага дома. Разам ездзілі мы па палях збіраць каменне на фундамент. Вырасціла я іх васьмёра, дзявятае памерла. Мужыка не было ў хаце, але бусел усё-такі дзяцей насіў, — смяецца спадарыня Надзя. — Кожнае мы прымалі і Богу дзякавалі. Праўда, пры такой іх колькасці і спаць не было калі, усё пільнуй ды пільнуй. Але для царквы і спеву я заўсёды час знаходзіла, на ўсе пахаванні мяне запрашалі не толькі ў Піражках, але і ў ваколіцы.

Дзеці вельмі нам цяпер дапамагаюць, усе мы трымаемся разам. Нават і ўнукі, якіх у нас дзевятнаццаць, пра нас не забываюць. Прывозяць сваіх кавалераў і дзяўчат. Заўсёды і кветку, і цукерку падораць. Маем таксама двое праўнукаў і двое яшчэ ў дарозе. Усім тут месца ёсць ці гэта будзе стоячы, седзячы ці лежачы.

Наш першы ўрачысты юбілей быў сарганізаваны у пятнаццатую гадавіну шлюбу. Тады якраз увайшлі мы ў новую хату. Потым было дваццаціпяцігоддзе з абедняй у Юраўлянскай царкве. Так надышло і саракагоддзе. Не ведалі мы ці дажывём пяцідзесятай гадавіны, але ўсё-такі дачакаліся. Зрабілі тады вялікі баль, на які пазапрашалі і сватоў, і суседзяў. З гэтага часу кожны год святкуем. Нават так здарылася, што калі аднойчы я апынулася ў шпіталі, то і там дазволілі нам крыху павесяліцца.

На апошні юбілей пад хату спадарства Алекшаў з’ехалася больш за дзесяць аўтамабіляў. Каб усіх памясціць, дзеці сарганізавалі вялікі шведскі стол у куце гасціннага пакоя. Як штогод, не магло абысціся і без беларускіх пажаданняў, і песні заказанай на Беластоцкім радыё. У гэты раз прагучаў запіс дуэта „Зараніца”, які год таму выпусціў кружэлку з любімымі песнямі спадарыні Надзі. Дарэчы, удзячны калектыў асабіста наведаў юбіляраў з урачыстым канцэртам.

— Тут у вёсцы толькі ўдовы дажываюць, — з сумам заўважае юбілярка, — а нам так удалося. Усё ў нас добра, толькі жыцця штораз менш застаецца.

## „Цаглінкі” ў Дубічах-Царкоўных

Запрашэнне на паездку ў Дубічы-Царкоўныя беларускі фальклорны калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова атрымаў некалькі месяцаў таму. Дата канцэрта была назначана на 8 сакавіка 2013 года. Удзельнікі „Цаглінак” рыхтаваліся вельмі сур’ёзна, з вялікай ангажаванасцю. І вось 8 сакавіка ў 13 гадзін — у Міжнародны жаночы дзень — на шыкарным аўтобусе калектыў „Цаглінкі” пад’ехаў пад Гмінны асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Дубічах-Царкоўных. Выйшаўшы з аўтобуса, каб падыхаць вольным веснавым паветрам, заўважыў я жанчын, якія адна за другой прыбывалі ў дом культуры. Калі я запытаў пра мэту іх прыбыцця, даведаўся, што войт гміны Лявон Малашэўскі запрасіў жанчын з усіх вёсак на гміннае святкаванне жаночага дня.

Тым часам „Цаглінкі” рыхтаваліся да выступлення. Перад пачаткам канцэрта, запланаванага на гадз. $14^{00}$, я глянуў на аўдыторыю. Глядзельная зала была запоўнена жанчынамі. На маю думку, было іх больш за сотню. Усе прыгожа апранутыя, з усмешкай на твары.

Вітаючы сабраных жанчын, войт Лявон Малашэўскі адзначыў, што іх мудрасць і ўнутраная сіла з’яўляюцца той асновай, на якой трымаецца свет. Гэта яны, жанчыны, імкнуцца перадаць дзецям любоў да свайго роднага, да сваёй культуры. „Кветкі ў вашых руках, — сказаў войт, — няхай стануць кветкамі шчасця і прынясуць радасць і ўдачу ў дом”. Далей сказаў, што ў наступным годзе на святкаванні будзе больш гасцей, а мерапрыемства будзе больш грандыёзнае. Жанчыны ў гэтым не сумняваюцца...

Пад гул апладысментаў першымі на сцэну выйшлі „Цаглінкі”. На працягу 45 мінут са сцэны ліліся ў іх выкананні мілагучныя родныя песні, вылікаючы ў публіцы эйфарыю. Пасля выступіў мясцовы маладзёжны калектыў „Струмок”, кіраўніком якога з’яўляецца Ігар Фіта. У калектыве спяваюць прыгожыя, маладыя, стройныя дзяўчаты ў народных строях. Іх выступленне таксама падарвала публіку. Відаць, што ў маладых артыстаў прыхаваны вялікі патэнцыял.

Пасля калектыву „Струмок” на сцэну зноў вярнуліся „Цаглінкі”, якія на працягу гадзіны паказалі прыгажосць беларускай песні, фальклору і гумару. Кожны іх нумар публіка ўспрымала авацыйнымі апладысментамі. Калі „Цаглінкі” выконвалі апошнюю песню, публіка паднялася з крэсел і ўзнагародзіла выканаўцаў бурнымі апладысментамі. На заканчэнне войт падзякаваў калектывам за ўдалы канцэрт, які надаў бляск жаночаму святу.

Свята мінула. У калектыве „Цаглінкі” зноў пачаліся напружаныя і нялёгкія будні.

**Віктар БУРА**




Лявон КАРПОВІЧ

# Уваскрэсенне на марках

*„Дабрашчасныя тыя, што не бачыўшы — паверылі”.*
*(Яна 20:29)*

Пасля Вялікай пятніцы прыходзіць Нядзеля Уваскрэсення: сярод густой цемені знявагі, ганьбавання, паніжэння, сумневу, адзіноцтва, пакінутасці, бяссілля, хваробы веруючыя знаходзяць уцеху ў святле, якое праменіць з твару Уваскрэслага Хрыста.

У чатырох Евангеллях апісваюцца падзеі, звязаныя з Уваскрэсеннем. Хоць апісанні гэтыя розняцца, але яны з'яўляюцца сведчаннем Апосталаў, як сведкаў Уваскрэсення, і не з'яўляюцца незалежнымі, але пранікаюць наўзаем, дапаўняюць і ўтвараюць адзіную цэласць. У поўнай згодзе асноўныя элементы: пусты гроб, сведчанне святых жанчын, з'яўленне Ісуса дванаццаці Апосталам.

„У першы ж дзень тыдня Марыя Магдаліна прыходзіць да магілы раніцай, яшчэ прыцемкам, і бачыць, што камень адвалены ад магілы” (Яна 20: 1). Спяшалася да гробу, каб намазаць пахучым маслам мёртвае цела свайго ўмілаванага Госпада. Не ведае яшчэ ў гэты момант, што прыходзіць, каб прыняць не знаючае заходу святло Уваскрэсення. Бачыць пустую магілу і напаўняе яе страх, што цела можа быць украдзена. „І вось бяжыць, і прыходзіць да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Ісус, і кажа ім: знеслі Госпада з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго” (Яна 20:2). Гаворыць „не ведаем” — у множным ліку, значыць, была не адна, што ўдакладняюць другія евангелісты. „Кажа ім: знеслі Госпада з магілы” — яшчэ надзея не пакінула яе сэрца. Але не дапускала думкі, што Хрыстос мог уваскрэснуць.

„Адразу выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы; яны пабеглі абодва разам; але другі вучань бег хутчэй за Пятра, і прыйшоў да магілы першы, і, нахіліўшыся, убачыў палотны, якія там ляжалі: але не ўвайшоў у магілу” (Яна 20: 4-5). Маем тут знак, што Ян лічыць Пятра больш заслужаным, маючым большую ўладу за яго.

„Следам за ім прыходзіць Сымон Пётр, і ўваходзіць у магілу, і бачыць адны палотны, якія там ляжалі, і хустку, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная, на іншым месцы”.

Звяртае на сябе ўвагу дакладнасць, з якой апісаны падрабязнасці ўбачанага.

„Тады ўвайшоў і другі вучань, што прыбег раней да магілы, і ўбачыў, і ўвераваў” (Яна 20: 6-8).

„Убачыў і ўвераваў”. Апавяданне дасягае тут свайго апагею.

На марцы, выпушчанай поштай Венгрыі ў 1980 г., бачым святых жанчын, якія з пахучымі масламі прыйшлі, каб памазаць цела Госпада. Выраз іх твару і нават становішча фігур цел паказваюць іх здзіўленне і неразуменне таго, што адбылося.

На марцы пошты Польшчы (2001 г.) відарыс адпавядае евангельскаму тэксту: адвалены камень, анёл у белым, як снег, адзенні і пусты гроб.

Самога Уваскрэсення ніхто не бачыў. Евангеліст Мацвей апісвае падзеі так: „Як прайшла субота, на світанні першага дня тыдня прыйшла Марыя Магдаліна і другая Марыя паглядзець магілу. І вось, зрабіўся вялікі землятрус, бо анёл Гасподні, які сышоў з неба, прыступіўшы, адваліў камень ад уваходу ў магілу і сядзеў на ім; выгляд жа ягоны быў, як маланка, і ўбранне ягонае белае, як снег. І ад страху перад ім затрымцелі вартаўнікі, і сталі як мёртвыя. Анёл жа, прамаўляючы да жанчын, сказаў: не бойцеся вы; бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса ўкрыжаванага; няма Яго тут; Ён уваскрэс, як сказаў; падыдзеце, пабачце месца, дзе ляжаў Гасподзь; ды ідзеце хутчэй, скажыце вучням Ягоным, што Ён уваскрэс з мёртвых і сустрэне вас у Галілеі: там Яго ўбачыце; вось я сказаў вам. І пайшоўшы спешна ад магілы, яны са страхам і радасцю вялікаю пабеглі паведаміць вучням Ягоным” (Мацвея 28: 1-8).

Мастакі ў сваім праслаўленні Уваскрэсення ў поўні дадалі згодна сваім уяўленням тое, што не апісана евангелістамі. Першая спроба адлюстраваць Уваскрэсенне Хрыста знаходзіцца на мініяцюры Атонаўскага евангелля (Мюнхен, Дзяржаўная бібліятэка). Але да сярэдзіны XII стагоддзя не было прынята дэманстраваць цялеснае Уваскрэсенне Хрыста. Такая выява з'яўляецца ў Ратманскім місале сярэдзіны XII ст. (Хільдэсхейм, кафедральны сабор). Хрыстос пераступае праз пярэдні край саркафага, трымаючы ў руцэ крыж з замацаваным на ім бел-чырвона-белым сцягам. З гэтага часу бел-чырвона-белы сцяг — сімвал перамогі Хрыста над смерцю — становіцца характэрнай асаблівасцю наступных адлюстраванняў Уваскрэсення.

Выразна бел-чырвона-белы сцяг відаць на марцы пошты Польшчы, выдадзенай у 1999 годзе.

Пошта Сербскай Рэспублікі выпусціла марку з рэпрадукцыяй карціны Матыяса Груневальда „Уваскрэсенне Хрыста” (Ізенгеймскі алтар у Музей Унтэрліндэн. Кальмары). Хрыстос, вызвалены Анёлам ад каменя, сімвалізуючага Стары Запавет, узнімаецца ў паветра ў асляпляльным святле да нябёсаў.

Больш інфармацыі, чым на марках, размяшчаецца на блоках, дзе часта адлюстроўваецца не фрагмент, але рэпрадукцыя цэлага твора мастака.

Прыкладамі такіх выданняў могуць быць блокі, выдадзеныя поштай Бразіліі ў 1983 годзе, на якім адлюстравана рэпрадукцыя карціны Рафаэля „Уваскрэсенне”, поштай краіны Сан-Тамэ і Прынсіпі (2004 г.) з рэпрадукцыяй карціны П'ера дэла Франчэска, поштай Ватыкана (2005 г.) з рэпрадукцыяй карціны Перуджына.

Фрэска П'ера дэла Франчэска „Уваскрэсенне Хрыста” выканана ім у 1460 годзе і знаходзіцца ў гарадскім музеі ў Сансепалькра (Таскана) — родным горадзе мастака. Ісус Хрыстос у ружовай тозе, не закрываючай раны, стаіць, яшчэ не вызвалены ад зямной цялеснасці са сцягам — сімвалам Уваскрэсення. Ён узвышаецца над чатырма салдатамі, якія спяць, і іх сон — гэта сон той часткі людзей, якіх не кранула Боскае святло. Пейзаж за плячыма Хрыста таксама сімвалічна падзелены на дзве часткі: злева — голыя чорныя дрэвы на пустой зямлі, справа — веснавы рассвіт прыроды. Гэта напамін аб наступе новай гісторыі ў жыцці чалавецтва, напоўненай любоўю, якая пачынаецца з Уваскрэсення Хрыста.

Напэўна многія з нас зайздросцяць тым двум вучням. Яны беглі, убачылі і паверылі. Гэта дало ім права на наступныя спатканні з Уваскрэслым. Але не пакінуты мы сіротамі. Хтосьці ў гэтыя святочныя дні будзе ісці з пахучымі рэчывамі да гроба Госпадня, хтосьці будзе бегчы, яшчэ не ўсведамляючы, што хочуць убачыць і дачаго прыйсці, хтосьці будзе спаць, аставацца абыякавым, хтосьці за грошы будзе распаўсюджваць звесткі, што ніякага ўваскрэсення не было, хтосьці... Але як гэта не дзіўна, Хрыстос памёр у ганьбе і муках на крыжы для ўсіх і для ўсіх паўстаў з мёртвых. Калі знойдзецца хоць адзін, які, не ўбачыўшы, паверыць, то ахвяра Хрыста не была дарэмнай і той „дабрашчасны”. І Уваскрэсенне Хрыстова найвялікшае свята не толькі таму, што дае шанс кожнаму, але і таму, што „апраўданне грэшніка ёсць яшчэ большым цудам Божым, чым стварэнне свету”.

## Вялікі пост

Сёлета праваслаўныя вернікі Вялікдзень будуць адзначаць 5 траўня. Папярэджваючы свята Вялікі пост пачаўся ў панядзелак 18 сакавіка, пасля Сырапуснай нядзелі.

Вялікі пост гэта адзін з суровых постаў, адмаўленне ўласным слабасцям. Саракадзённы прамежак часу Вялікага посту з'яўляецца своеасаблівым запрашэннем да асабістага намагання і пераадольвання ўласных заган. Паводле прынцыпаў кананічнага права, у час посту не дазваляецца арганізаваць забаў і спажываць мясных страў. Даўней, напрыклад, хлеб намазвалі варэннем, а не маслам, або мачалі ў алей. Селядцы падавалі без смятаны, каву без цукру. Пілі гарбату з ліпавага цвету. Спажывалі маласалодкае пячэнне. Жанчыны апраналі чорныя ўборы, а мужчыны адракаліся курыць папяросы і спажываць алкагольныя напіткі (такое прыкмячаў я ў шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя сярод мужчын у Піліках на Бельшчыне). Памяркоўна ставіліся да палавых суаднасін. У некаторых сем'ях у час посту адмаўляюцца спажываць не толькі мяса, але і рыбу ды малочныя прадукты. Саракадзённы пост, міласціна і малітва дазваляюць чалавеку прыблізіцца да Бога, падрыхтавацца да адзначэння найбольшага святкавання сярод хрысціян — Пасхі. З гэтай нагоды мітрапаліт Сава ў лісце да вернікаў назваў Вялікі пост „перыядам духовай вясны”. Як адзначыў мітрапаліт Сава, пост гэта не толькі стрымліванне ад спажывання страў, але і „стрымліванне языка і пажадлівасцей”:

— Нячдачы і падзенні, поспехі, стрэс прыводзяць чалавека ў стан суму і збянтэжанасці. Таму посцім дзеля таго, каб больш эфектыўна змагацца з пажадлівасцямі, якія туляцца ў нашых сэрцах, — напісаў мітрапаліт Сава. Дадаў пры тым, што, стрымліваючыся ад ежы, наша натура становіцца больш тонкай і адчувальнай да духоўнага свету.

— Сёння прыпамінаем пра гэта па прычыне незразумення і расчараванасці шматлікіх людзей, бо свет не цэніць посту і не разумее яго значэння. Таму сустракаемся са спробамі ліквідацыі посту, і такім чынам адмаўлення пакаяння, якое злучае нас з Богам, — прыгадаў у лісце мітрапаліт Сава.

## Помнік мінулага


Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Едучы з Кузавы ў напрамку вёскі Чаромхі, з правага боку на абочыне гравейкі стаіць жалезны крыж. Помніку пэўна больш за сотню гадоў, бо цэментны падмурак парос мохам, а надпіс „з'ела” карозія часу. Хто ўстанавіў крыж і для якой мэты — цяжка сказаць. Паколькі знаходзіцца ён пры чаромхаўскім полі, мабыць і ўладальніка трэба шукаць у вёсцы Чаромсе. Дагэтуль не ўдалося мне высветліць гісторыі помніка даўніны. Калі б нехта з жыхароў валодаў інфармацыяй наконт згаданага крыжа, прашу кантактавацца з аўтарам. Рады буду запісаць гісторыю гэтага помніка.

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

**Паўліна Ваўранюк,** гімназістка з Нарвы, ужо ў час сваіх першых Сустрэч „Зоркі” паказалася ўражлівай арыгіналкай. Як ніхто іншы прыкмеціла яна боль ракі, якую запынілі ў вадасховішча. У наш час мала хто звяртае ўвагу на кагосьці іншага як ён сам, а што гаварыць пра прыроду!

З цеплынёй успрынялі мы паэтычны дэбют Паўліны. Гімназія — гэта складаны час, які мы, дарослыя, успамінаем з прыемнасцю. Аднак для саміх гімназістаў гэты час — нязведаны лес, у якім часта доўга блукаем, пакуль не трапім на сваю дарогу. Варта ўсё гэта запісаць, каб з перспектывы часу паглядзець на балючы час дарастання, першыя каханні, спадзяванні.

Пішы, Паўлінка, у цябе прыгожая душа. **Зорка**



фота Ганны Кандрацюк

**Паўліна ВАЎРАНЮК**

## Чаму?

Убачыш.
Адвернешся.
Чаму?
Пытаю я цябе,
Ты маўчыш.
Чаму?
Не кахаеш...
Не ведаеш...
Чаму?
Чакаеш...
Каго?
Іншай...
Лепшай...
Чаму?
Я адыду.
Ты астанешся,
Адзін,
Пытаючыся ў сябе:
„Чаму?”



Клім Латышонак з татам Алегам



Ніна Ваўранюк

# Мастацкі 25-ты Сакавік

*— Быў вельмі сямейны настрой, людзі прыйшлі з дзеткамі,* — так пісалі на фейсбуку пра беластоцкае святкаванне Дня Волі госці з Беларусі. Сапраўды, у Беластоку святкуюць з радасцю і павагай, вельмі часта цэлымі сем’ямі. Дзеці таксама часта выступаюць на сцэне. Адзін з маіх найпрыгажэйшых успамінаў — мінулагодняе выступленне спевакоў з садка. У гэтым годзе запрэзентаваліся дзяўчаты з Аб’яднання бацькоў у карысць беларускай мовы, якія падрыхтавалі літаратурна-музычны мантаж, прысвечаны памяці Сакрата Яновіча. Дзяўчаты, пад музыку Яна Тарасевіча, чыталі „скарàткі” — паэтычныя мініяцюры аўтара з Крынак. Якраз 24 сакавіка споўнілася сорак дзён пасля смерці пісьменніка. Гэта быў светлы, кранальны і сугучны свяцу спектакль. Моладзь падрыхтавала нястомная настаўніца Аліна Ваўранюк.

Мастацкую частку папоўнілі іх крыху старэйшыя сябры з Гародні — панк-рок-гурт „Людзі на балоце”. Яны настолькі парадавалі і паднялі настрой, што іх беластачане не хацелі адпусціць са сцэны. А дзеткі, вядома, адразу кінуліся пад сцэну танчыць!

**ЗОРКА,**
**фота ГАННЫ КАНДРАЦЮК**



# Конкурс пра вясну (13)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Ад чаго выводзіцца назоў месяца красавіка?**

а) ад прыгожасці,
б) ад квітнеючых кветак-красак,
в) ад велікодных чырвоных крашанак.

**2. Як называем час, калі турухтаныпеўні прыаздобліваюцца ў каляровыя пёры, танчаць рытуальны танец для сваёй партнёркі?**

а) падыходы,
б) шлюбны перыяд,
в) танцы птушак.

**3. Як называем народна-рэлігійнае свята, звязанае з выпяканнем піражкоў, г.зв. „буславай лапкі”, у пачатку красавіка?**

а) Дабравешчанне,
б) Саракі,
в) Свята вясны.

Адказы дашліце да 10 сакавіка 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 9:** 1 — Масленіца (в); 2 — Лукаш Марчук з Нараўкі (а); 3 — НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку (а).

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі **Магда Пташынская, Лукаш Марчук, Стэфан Харкевіч** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа

### Скарга гультая

— Усё жыццё змагаюся,
Скардзіцца гультай.
Калі ж ужо, пытаюся,
Скажу яму: бывай!

Да абеду з голадам
Ваюю кожным днём.
А па чарговым поедам
Змагаюся са сном.

### У фатографа

Фатограф пытае
Шчаслівага Янушка:
— Ці павелічыць маю
Вашую дачушку?

— Аб павелічэнні
Хіба забудзем.
Дачушка Жэня
Сама расці будзе.

# Міхалова прыехала да сяброў у Нарву!



Кажуць, найважнейшы пачатак. 20 лютага г.г мы наладзілі першую сустрэчу паміж школамі ў Міхалове і Нарве. Вучні першых і другіх класаў ПШ з Міхалова паехалі ў Нарву. На месцы вельмі прыязна сустрэлі нас настаўнікі, дырэкцыя і бацькі. Сапраўдная падрыхтоўка выявілася ў аздабленні залы, дзе былі выступленні дзяцей. Калі на сцэне паказаліся маладыя акцёры — усе былі ў захапленні. Вучань з Нарвы захахапіў сваім выступам на беларускай мове і, хаця не ўсе яго зразумелі, дзеці хорам выгукнулі „дзякуем!”. Вучні другога класа з Міхалова, пад кіраўніцтвам Анны Бaгдановіч, выступілі з цыркавымі нумарамі і атрымалі апладысменты. Яны таксама паказалі сцэнку „Як дзеці памагалі бабулі”, якую падрыхтавалі з Альжбетай Раманчук. Гульні з хустай правялі Галена Лукша і настаўніца Галіна Лапінская. Адбыўся таксама конкурс спевакоў, дзе праявіліся ўсе вучні. Сустрэчу закончыў смачны пачастунак. Вучням з Міхалова так спадабалася, што не хацелі вяртацца ды яшчэ ў сталовай яны спявалі і размаўлялі.

Госці з Міхалова сардэчна дзякуюць дырэкцыі, настаўнікам і бацькам з Нарвы за цёплы і прыхільны прыём. Нарву запрасілі ў Міхалова. Дзякуючы такім настаўнікам як Ніна Абрамюк хочацца нам, маладым настаўнікам, яшчэ больш працаваць.

**Альжбета РАМАНЧУК**

# Музыка з кайфам

## „Akute”: Працуюць „як на далоні”



Чарговы раз адзначылі мы гадавіну Беларускай Народнай Рэспублікі. Патрыятычныя святкаванні — нагода даведацца пра сваю блізкую гісторыю і сваіх продкаў, а гэта ўжо простая дарога да ведання сябе, кантэксту, гісторыі. Ведаць гісторыю — гэта ведаць сваю спадчыну. Такім моттам пакарыстаўся гурт „Akute”. Блізкія ім розныя рэчы, але не так відавочныя, што блізкім будзе ім „Уліс”. Вось у час бліжэйшага канцэрта, які пройдзе ў красавіку, хлопцы з „Akute” запрэзентуюць новую канцэртную праграму, у якую ўвойдзе часткова і новы матэрыял, але цэлая канцэртная праграма атрымала загаловак „Як на далоні”. Загаловак ад згаданага „Уліса” і яшчэ першы кавер у гісторыі „Akute”.

Каверы з перспектывы выканаўцы — складаная справа. З аднаго боку спяваем пад носам цэлае жыццё чужыя песні, але каб рашыцца выканаць нейкі кавер, гэта ўжо вялікая адказнасць. Іншая рэч, што ведаем гурты, якія працуюць толькі на каверах або кавер спрычыніўся да папулярнасці гурту. „Akute” папулярнасці праз кавер дабівацца не патрабуе хаця б таму, што паводле намінацый „Ultra Music Awards” стаў „Гуртом 2012 года”. Сутнасць у тым, што на свой варштат бярэ рэпертуар гурту-легенды, пра які шматлікія хочуць забыць. Але гэта доказ спеласці і адказнасці. Зусім другарадная справа тут здаецца быць інтэрпрэтацыя, хаця вядома, што ў якасным гурце памылкі здараюцца павінны вельмі рэдка, калі ўвогуле! Рома — гітарыст „Akute” сказаў у інтэрв'ю, што іх ідэя заснаваная на тым, каб выдатную спадчыну „Уліса” ўзгадваць і прасоўваць далей, каб „Танцы на даху” адбываліся часцей, а паўсюль усе разумелі, што „Краіна добрай белай хмары” гэта не сезон пад снегам.

i_basovka@o2.pl

# Як камень дапамагаў людзям

Калі хто з вас паедзе ў Жыровічы, там убачыць святы камень у царкве. На ім аб'явілася іконка Жыровіцкай Божай Маці. Сама іконка напісана таксама на камені. Іх прысутнасць прамаўляее як рэлікт народнай духовасці. Яшчэ ў дахрысціянскі час наш народ паважаў камяні. Паміж чалавекам і валуном былі практычныя адносіны. Узамен за пашану некаторыя камяні служылі і дапамагалі людзям. Найбольш вядомыя камяні-краўцы. Іх найчасцей называлі Сцяпан. Увечары яму прыносілі тканіну і прасілі:

— Сцяпан, пашый мне жупан!

Камень-кравец шыў многім пакаленням. Але аднойчы яго абразіла дурная жанчына. Яна прынесла вечарам сукно, паклала на камень і сказала:

— Сцяпан, сшый мне „ні тое, ні сёе”.

Калі яна раніцай прыйшла за адзежай, палатно было сапсаванае. Адзін рукаў быў прышыты там дзе трэба, а другі быў прычэплены ўнізе. З таго часу камень пакрыўдзіўся на людзей і перастаў ім служыць.

*(з народнага)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 13

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 9:**

Раса, старт, нажніцы, вожык, жар, вяз, лыка, фарба, мара. Ножык, важак, жырафа, танк, ар, шалі, вера, знак.

Узнагароды, пакеты з лагатыпам „25 Сакавіка”, выйгралі **Алік Чарнецкі з Нараўкі, Магдалена Хвашчэўская, Эмілія Сахарэвіч, Аляксандра Валосік з Бельска-Падляшскага, Марыюш Красько, Зузанна Мішчук, Вольга Мішчук з Арэшкава.** Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Dola Los | | Wiosło | Podstawa Osnowa | | | |
| Język | | | | | Len Kopa | Notatka | |
| | Łoskot | | | | | | |
| Wiosna | | | | | | | |
| Kum | Krowa | Łopot | | | | | |
| | | | | | | | |
| | Mak | | Rzeka | | Bierz | | |
| | | | | | | | |
| Marzec | | | | | | | |

**У Любліне падчас трохдзённага семінара «Культура для Усходняга партнёрства» (8-10 сакавіка) адбылася дыскусія, прысвечаная сітуацыі сучаснага мастацтва і культуры ў Беларусі. Удзельнікі былі з Мінска: Валянціна Кісялёва і Ганна Чыстасердава — артдырэктаркі галерэі сучаснага мастацтва «Ў»; Тацяна Арцімовіч — рэдактар культавага часопіса «pARTisan», тэатральны крытык; Сяргей Шабохін — мастак і стваральнік сайта, прысвечанага сучаснаму мастацтву «ARTAKTIVIST»; Павел Касцюкевіч — пісьменнік і шэф кніжнага магазіна «Логвінаў», які папулярызуе сучасную беларускую літаратуру і сучасную сусветную літаратуру ў перакладзе на беларускую мову ды Аксана Гайко з Брэста — шэф тэатра «Крылы Халопа». Дыскусію вялі члены рэдакцыйнай каманды «Культура Enter» — інтэрнэт-часопіса, які апісвае пераўтварэнні ў культуры, у тым ліку ва Усходняй Еўропе.**

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Што з культурай у Беларусі?



Злева: Аксана Гайко, Сяргей Шабохін, Павел Касцюкевіч, Ганна Чыстасердава, Валянціна Кісялёва, Тацяна Арцімовіч

Да размовы прыслухоўваліся прадстаўнікі дзесяці краін Еўропы, асабліва з краін-удзельніц Усходняга партнёрства (Арменія, Азербайджан, Грузія, Малдова, Украіна, Беларусь). Прыбылі яны ў Люблін, каб падрыхтаваць тут ІІ Кангрэс культуры Усходняга партнёрства, які будзе праходзіць у гэтым горадзе восенню. Вось вытрымкі з гэтай размовы.

*— Да Усходу, ці да Захаду?*

**Тацяна Арцімовіч:** — Калі казаць з пункту гледжання Усходу і Захаду, як давесці беларускую культуру — пытанне было, мабыць, пастаўлена некалькі дзесяцігоддзяў таму. Яно для беларускай культуры — вырашана. Беларуская культура арыентавана не толькі на Захад з дапамогай простых суаднасін: мовы культуры і мастацтва ці канцэптуальных пытанняў. Сучасныя мастакі прадстаўляюць сябе актыўна незалежнымі галоўным чынам у заходнееўрапейскай прасторы.

**Валянціна Кісялёва:** — Я не згодная з Тацянай. Калі ставіцца гэтае пытанне, заўсёды ўзнікае пытанне распалажэння Беларусі паміж Расіяй, Польшчай, Украінай і Літвой. Беларусь у гэтай прасторы крыху адчужана, але ўсё яшчэ спрабуе даць сабе рады ў ёй. Але ж відаць, што яна ідзе ў іншым накірунку, бліжэй да рускай культуры.

**Ганна Чыстасердава:** — У планах гэтай сустрэчы была заява пра размову аб стане інфраструктуры беларускай культуры. І калі прымаць пад увагу гэты матыў, дык гэтай інфраструктуры ў Беларусі яшчэ далёка да Заходняй Еўропы, і, на жаль, да гэтага часу асацыюецца з савецкім часам. І хоць гэта гучыць сумна, у нашай афіцыйнай культурнай палітыцы працягваем вобраз, які пераносіць традыцыі Савецкага Саюза.

**Павел Касцюкевіч** (паўжартам): — Паколькі я свядомы беларус, мабыць, пакутую ад маніі вялікасці, і я лічу, што нашу культуру хочуць і ў Еўропе, і ў Расіі. Таксама беларусаў. Варта адзначыць, што ў паўсядзённай практыцы, калі ў маршрутках іграе руская папса, а па вечарах чытаюць раманы Уладзіміра Караткевіча еўрапейскай накіраванасці. Нас па-ранейшаму раздзіраюць, мы самі сябе раздзіраем, і ў выніку раздражняем. А калі паглядзець з пункту гледжання інфраструктуры, выглядаем убога, хоць ніхто ў Беларусі не скажа вам гэтага, і ніхто так не думае. О, такая дваістасць.

**Сяргей Шабохін:** — Я згодны, што сучасная, незалежная беларуская культура арыентавана на Захад. Але так нельга гаварыць пра яе цэлую. У інерцыі пасля Савецкага Саюза захавалася поўнасцю спецыялізаваная сістэма каплення з усёй інфраструктурай, з усімі інстытутамі. Вядома, што ўсё, што было створана з паклонам да Расеі. Тым не менш яно спрацоўвае, падтрымлівае працу афіцыйнай культуры, арыентаванай на аб'яднанне славянскіх краін. Мне здаецца, што працэс самаідэнтыфікацыі, аднак, прасоўваецца ў галіне культуры. З'яўляецца ў нашай культуры шмат нацыяналістычных элементаў.

**Аксана Гайко:** — Прыйшоў мне ў галаву прыклад, звязаны крыху з тэмай незалежнай культуры. Успамінаю сяброў, прафесійных музыкаў, кампазітараў, якія часта ездзяць з канцэртамі на Захад. Яны сказалі мне, што ім ніколі ў Беларусі за высокую якасць музыкі не плацяць так высокіх ганарараў, як на Захадзе.

*— Што з'яўляецца незалежнай беларускай культурай?*

**Сяргей Шабохін:** — Я думаю, што ў афіцыйнай беларускай культуры шмат кашто́ўнага. Назіраючы за станам культуры пасля атрымання Беларуссю незалежнасці ў пачатку 90-х гадоў, быў узяты курс на інтэлігенцыю, улада адышла ад ціску і звярнулася да аўтэнтычнасці, сталі звяртаць больш увагі на беларускую мову як агульнае дабро, у тым ліку на беларускую літаратуру. Сталі прыкмячаць графіку і жывапіс, якія спрабавалі знайсці свае сродкі выражэння. З пункту гледжання аховы творчых правоў, дзякуючы якім можна стаць незалежным, дык паранейшаму ёсць там яшчэ шмат праблем.

**Павел Касцюкевіч:** — У прыватным, незалежным кніжным магазіне, дзе я працую, магу дазволіць сабе прадаваць кнігі пісьменнікаў і тых, якія ўваходзяць у афіцыйную суполку пісьменнікаў, і тых, хто ў неафіцыйную. Адзінае патрабаванне да выбару кніг для продажу ў нашай краме: ці яны добрыя. Адзіная розніца паміж намі і іншымі кніжнымі крамамі ў Беларусі заключаецца ў тым, што ў дзяржаўных кнігарнях кніжак незалежных пісьменнікаў не ўбачыце. І гэта ўся розніца.

**Валянціна Кісялёва:** — Нерухавасць афіцыйнай культуры — сапраўды жахлівая рэч на самой справе. Жыццё, а за ім асабліва мастацтва, з'яўляюцца прадметам бесперапыннага, інтэнсіўнага развіцця, а афіцыйная культура апынулася ў замарожаным стане. Рашуча больш у ёй адштурхвае.

**Ганна Чыстасердава:** — Афіцыйнае мастацтва з'яўляецца ў цяперашні час прадметам у цэласці ідэалогіі. Няма зацікаўлення спробамі прадставіць гэтае мастацтва крытыцы, нейкаму аналізу. Стварае ўражанне, што яно цікавае, але я думаю, што, на жаль, нічога яно нявартае.

**Тацяна Арцімовіч:** — Для мяне, афіцыйнае мастацтва і культура, вядома, не з пункту гледжання формы, гэта тое, што знаходзіцца ў афіцыйных структурах і выконвае пэўныя ідэалагічныя заказы, і я не веру ў шчырасць культуры і мастацтва, якія выконваюць ідэалагічны заказ. Незалежная культура гэта тыя аўтары, якія кажуць тое, што яны хочуць, не абрубваюць сябе таму, што хочуць атрымаць заказ. Два гады таму Беларусь мела магчымасць стварыць свой нацыянальны павільён на Венецыянскім біенале. Куратар сабраў мастакоў, якраз прадстаўнікоў незалежнай культуры. Гэта было да апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Абяцаны ім былі грошы для ўвядзення сваёй уявы. Абяцанні не захаваліся, і ўсё скончылася вельмі шкодна. Як і ў савецкія часы, выстава напоўнена была дасягненнямі «народнага хазяйства». З іншага боку, у павільёне паказалі тое, што на самой справе ёсць у Беларусі, што сабою прадстаўляе афіцыйная культура. У канцы мінулага года ўпершыню арганізаванае было Міністэрствам культуры трыенале сучаснага беларускага мастацтва. Упершыню дзяржава быццам бы сказала: так, у нас ёсць сучаснае мастацтва, а мы будзем яго паказваць. У выніку паявіўся павільён з «дасціжэніямі народнага хазяйства ў області іскусства». Калі паглядзець з пункту гледжання, што адной з функцый сучаснага мастацтва з'яўляецца крытыка, у тым ліку праблем, якія стаяць перад грамадствам краіны, яе палітычнай сістэмы, дык вядома, гэта не яна прагучала на гэтай выставе. На афіцыйным узроўні ў Беларусі цяпер публічная крытыка дзяржавы не з'яўляецца магчымай.

*— Перашкоды незалежнаму беларускаму мастацтву.*

**Валянціна Кісялёва:** — Хаця гэта можа быць банальным, але адной з самых важных праблем з'яўляецца праблема фінансавання. Паказванне паўнавартаснай, гатовай прадукцыі абазначае сур'ёзны фінансавы ўклад. Гэта самая сур'ёзная праблема таксама ў нашай галерэі, таму што, вядома, з боку дзяржавы ніхто нас не падтрымлівае. Іншай такой асабліваю з'яўляецца самацэнзура. На працягу перыядаў розных сістэм у Беларусі не была сфармуляваная мадэль адкрытага мыслення.

**Павел Касцюкевіч:** — У адным з раёнаў пры ўездзе ў Мінск стаіць велізарны рэкламны шчыт «Добро пожаловать в Беларусь». Трэба разумець, што ёсць Мінск і ўся апошняя Беларусь. Што дазволена ў Мінску, не дапускаецца ў іншых рэгіёнах. На кнігагандлёвым рынку Мінск з'яўляецца важным пунктам. Такіх кніг, якія знаходзяцца ў нашай краме, кніг на беларускай мове, вы не можаце купіць больш нідзе ў Беларусі. Польскія партнёры павінны зразумець гэтую тонкасць.

**Сяргей Шабохін:** — Варта тут дадаць праблему звязаную са спецыфікай нашага закону. Ёсць у ім вызначэнне мастака, галерэі, кнігарні. Апушчаны, аднак, найбольш важныя пытанні, звязаныя з самой дзейнасцю людзей мастацтва і культуры і ў такіх прававых умовах працаваць вельмі цяжка. Неабходныя прававыя палажэнні, якія садзейнічалі б культуры.

**Валянціна Кісялёва:** — Культурныя арганізацыі ў Беларусі, але, мабыць, любыя з нашых арганізацый, прама ці ўскосна, не могуць працаваць дзякуючы замежным грантам. Дзеянні за атрыманне фінансавай дапамогі, якая магла б быць аказана звонку, нерэальныя. І гэта выклікае шмат ускладненняў.

**Аксана Гайко:** — Усё, аб чым была гаворка, аб фінансаванні або самацэнзуры, датычыць нас і ў правінцыі. Толькі што ў нас вырастае яно да некалькі разоў больш праблем. Усе тыя службовыя асобы, якія маюць справу з дазволамі і забаронамі, знаходзяцца побач з намі, у прамым штодзённым кантакце з намі. Я была вымушана зацвердзіць кожны мой рух у тэатры: ад таго як будзе выглядаць плакат аж да дыялогаў у пастаноўцы.

*— Чаго чакаеце ад Усходняга партнёрства?*

**Сяргей Шабохін:** — Ужо было сказана, што сістэма з грантамі ў Беларусі не працуе, а іх выкарыстанне лічыцца незаконным. Між тым, супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі з'яўляецца адзіным спосабам атрымаць фінансаванне для рэалізацыі асобных праектаў.

**Ганна Чыстасердава:** — Усходняе партнёрства гэта перш за ўсё дыялог, у якім кожны з бакоў з'яўляецца шчырым з сабой і сабе давярае. У ніякім выпадку не можа служыць рэалізацыі мэт толькі аднаго з бакоў. Практыка паказвае, што дзякуючы вонкавым грошам можна нияк дзейнічаць легальна. Толькі трэба выступаць не як асноўны аплікант, а толькі ў якасці асацыяванага, лакальнага партнёра. Дарэчы, цікава, што наша галерэя ў мінулым годзе ўсё больш і больш праектаў рэалізуе з Польшчай, і я спадзяюся, што з цягам часу будзе іх яшчэ больш.

**Валянціна Кісялёва:** — Няма ў нас таксама такой установы, якая займалася б дапамогай куратарам мастацтва. Пасля абучэння ў рамках Партнёрства мы маглі б атрымаць адэкватныя веды ў гэтым пытанні.

**Тацяна Арцімовіч:** — Сутыкаемся на Захадзе, што не заўсёды разумеецца, якія спецыфічныя працэсы адбываюцца ў Беларусі. Мы былі б удзячныя, калі б надалей гучна аб іх гаварылі.

**Павел Касцюкевіч:** — Мы чакаем, што будзем ад вас надалей даведвацца пра тое, што адбываецца ў вас.

Карыстальнікі публічнага транспарту часта наракаюць, што на прыпынках няма раскладаў, што напоўненая неспажытым адрэналінам моладзь у хуліганскім парыве знішчае тыя расклады, а адказныя работнікі той жа публічнай камунікацыі не праўяць шкодаў. Але здараецца і так, што тыя ж адказныя працаўнікі павешаюць такія расклады язды, якія ўводзяць поўную неразбярыху. На аўтобусным прыпынку ў Браньску вісяць чатыры расклады язды, і тыя чатыры расклады паказваюць будучым пасажырам розныя варыянты адпраўлення аўтобусаў. Быццам у нас такое камунікацыйнае багацце, што пасажыру прадстаўляецца магчымасць выбраць такі расклад язды, які яму найбольш па душы; быццам у абяцаным камунізме: кожнаму паводле патрэб. Інакшы падыход у Беластоку, дзе каля старой электрастанцыі вісіць пэкаэсаўскі расклад язды аўтобусаў, напісаны, мабыць, энтузіястам абстракцыйнага мастацтва. Для прыкладу, аўтобус у Варшаву цераз Седльцы мае ездзіць згодна з нейкай паметкай, якой тлумачэння там няма. І калі я, глянуўшы на той расклад, хацеў ужо вяртацца ўсваясі, аўтобус пунктуальна прыехаў...




Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Боцькамі

Быў дзень пасля канклава і бартавы радыёпрыёмнік мажорным тонам распавядаў пра новага пантыфіка. Які будзе новы пантыфікат — яшчэ невядома, але энтузіязм ад падзеі цалкам зразумелы. Бо ж хадзілі ў народзе чуткі, што калі на пасаду абяруць нейкага негра, тады настане канец свету. Але абралі беласкурага аргенційца еўрапейскага, а канкрэтна італьянскага, радаводу. Прадбачвалася ж цэлая серыя канцоў свету: меў завяршыцца каляндар майя, меў упасці на Зямлю астэроід, на Чалябінск наляцелі метэарыты, наступіў канклаў — і за кожным разам удавалася ад таго канца свету на нейкі час выкрунуцца. Як жа ж не радавацца такому ходу падзей?..

Злез я з аўтобуса ў Андрыянках, але не ў вёску гэтую я падаўся, толькі ў дакладна адваротным напрамку — у бок Секлюкоў. Калісь-калісь, бадай яшчэ ў 1950-я гады, хіба ў „Зорцы", быў нейкі допіс з тае вёскі; мо і цяпер нешта там цікавага можна пабачыць. На тапаграфічнай карце з Андрыянак у Секлюкі пазначана прыстойная дарога. І сапраўды, дарога тая ад бельска-сямятыцкай шашы нават была расчышчана ад снегу, але толькі ў пачатку. Пазней ужо, зараз за блізкімі хутарамі, дарога тая паказала незалежнасць ад чалавечага ўмяшальніцтва, радуючы мяне некранутым снегавым насцілам. Не надта інакш было і далей, на абкапаным равамі гасцінцы з Пятрова-Крываколаў, дзе снег лёгка прысыпаў след адзінокага трактара; не дзівавацца ж, што ў зімовы час народ у поле не ездзіць. Але, мабыць і ўлетку дарога тая не пад надта вялікай нагрузкай, пра што сведчылі непрыхаваныя снегам сухія сцябліны пустазелля. А прыстойныя кусты ў равах дазвалялі дадумвацца, што была яна абкапана бадай у час г.зв. камуны і, мабыць, панаракаць, што „камуна будавала", а той строй, які наступіў пазней, „развалілў"...

Карціна памянялася, калі пратаптаў я снег да іншай дарогі, што даходзіла з боку прысёлка вёскі Смалюгі — адтуль дарога была прачышчана для легкавушак, якіх цяпер па вёсках здаецца, больш чым трактараў... А глыбы рассунутага снегу ў выніку ветравой эрозіі паказвалі незвычайныя кшталты, якія маё вока палічыла не менш цікавымі за ўзніклыя ў выніку такой жа эрозіі скальныя фігуры ў польскіх Сталовых ці ў амерыканскіх Скалістых горах; адно толькі тое снегавое ветрадзелле надта мімалётнае...

Секлюкі, як і чарговыя вёскі — Жалоцькі, Сельц ці Замінова — нічым асаблівым не вылучаюцца; яны больш-менш такія як і іншыя нашы вёскі — крыху мураванак у іх, крыху драўляных будынкаў, крыху незаселеных хат. Геаграфічны „Слоўнік Каралеўства Польскага" з пачатку мінулага стагоддзя так згадвае пра першую з іх: „Siekluki, wś i dobra, pow. bielski gub. grodzieńskiej, gm. Grodzisk (Gorodisk), o 21 w. od Bielska".

Пра Сельц вэб-даведнік згадвае так: „Wieś dawniej nazywała się Sielec. W Słowniku Geograficznym Królestwa Polskiego z 1889 r. nt. wsi czytamy: „Sielec, wieś, powiat bielski, gubernia grodzieńska, gmina Aleksin, parafia Dołubów, o 23 wiorsty od Bielska". Той жа слоўнік інфармуе, што вёсак з гэтай назвай шмат на тэрыторыі сённяшняй цэнтральнай Беларусі ды ў... міжрэччы Віслы і Піліцы. З гэтага трэба меркаваць пра магчымую шматкультурнасць гэтай вёскі, што зараз у межах Боцькаўскай гміны.

Аднак Сельц прадстаўляе сабою таксама і своеасаблівую шматканфесійнасць. У вёсцы на адной з невялікіх мураванак шыльда Хрыстовага касцёла. Вэб-даведнік: „Większość mieszkańców wsi stanowią katolicy. Na terenie wsi działalność duszpasterską prowadzi także Kościół Chrystusowy, wyznanie protestanckie o charakterze ewangelicznym". Афіцыйны сайт Касцёла: „Kościoły Chrystusowe wywodzą się z tzw. Ruchu Odnowy (Restoration Movement), zapoczątkowanego w Wielkiej Brytanii i Stanach Zjednoczonych w końcu XVIII wieku. Praktyka życia zborowego oparta była na Biblii. Początki Kościoła Chrystusowego na ziemiach polskich to rok 1921 i działalność Konstantego Jaroszewicza. Konstanty Jaroszewicz urodził się 25 września 1891 r. we wsi Starowieś (okolice Bielska Podlaskiego). W roku 1910 wyjechał „za chlebem" do Stanów Zjednoczonych. Znalazł tam więcej niż oczekiwał — chleb żywota. W lipcu 1912 r. w Nowym Jorku usłyszał Słowo Boże, głoszone przez ewangelistę Kościoła Chrystusowego Józefa Kesvila. Jeszcze tego samego dnia wieczorem nawrócił się i przyjął chrzest wiary. Postanowił poświęcić swe życie głoszeniu Ewangelii. Prowadził akcje ewangelizacyjne wśród ludności słowiańskiej i żydowskiej, wykładał w Kościołach ewangelicznych i instytucjach naukowych w wielu stanach Ameryki Północnej. Pragnieniem jego było głoszenie Ewangelii w ojczyźnie. Pod koniec roku 1921 z żoną Ksenią powrócił do Polski, do rodzinnej Starowsi. Praca ewangelizacyjna nie była łatwa. Jaroszewiczów spotykały różne przykrości ze strony sąsiadów, krewnych i duchowieństwa, włącznie z obrzucaniem kamieniami i nawet próbą pozbawienia ich życia. Nie zniechęcało to ich jednak, a przeciwności jeszcze bardziej utwierdzały w przekonaniu, że rodacy bardzo potrzebują Ewangelii. Wkrótce nawiązali kontakt z rodziną Jakoniuków w Andryjankach, którzy już wcześniej zetknęli się z Dobrą Nowiną. Połączyła ich przyjaźń i współpraca. Razem prowadzili pracę ewangelizacyjną i dobroczynną. Wśród pierwszych osób, które przyjęły Ewangelię był Nikon Jakoniuk i Mikołaj Korniluk oraz jego matka i siostry. W maju 1923 roku odbył się pierwszy chrzest kilkunastu osób, we wrześniu następny. Jesienią 1924 r. Jaroszewiczowie sprzedali swoje gospodarstwo i przeprowadzili się do Kobrynia, gdzie zakupili dom z dużym ogrodem. W następnym roku na tej posesji zbudowano dom modlitwy. Powstało tam centrum misyjne Kościoła Chrystusowego. Działalność misyjna prowadzona była na terenie województw: wileńskiego, nowogródzkiego, białostockiego, poleskiego, wołyńskiego i lwowskiego. Konstanty Jaroszewicz po II wojnie światowej trzykrotnie odwiedził Polskę (w latach 1946-48), niosąc pomoc materialną w nabyciu i odbudowie centrali Kościoła Chrystusowego w Warszawie oraz kaplic w wielu innych miastach. Zostało to dostrzeżone i docenione przez władze państwowe. 2 maja 1949 został odznaczony orderem Polonia Restituta. Rok 1950 to czarna karta w historii Kościoła. 19-20 września tego roku wszyscy członkowie władz naczelnych Kościoła i większość aktywnych działaczy zostali aresztowani pod zarzutem zdrady stanu. Niektórzy zostali wypuszczeni po kilku miesiącach, inni dopiero w roku 1953".

А я ж, пакуль не зайшоў у Сельц, нават не ўяўляў, да чаго здольныя розныя нашы людзі, не толькі адзін Ілья Клімовіч... Дадам яшчэ, для поўні ўяўлення, што на архіўных здымках вернікаў гэтага Касцёла віднеюць рускамоўныя транспаранты. Зараз у наваколлі Сельца не відаць нейкіх асаблівых канфесійных метак, ад гэтай вёскі да Далубова толькі некалькі старых драўляных крыжоў. У Сельцы побач сябе мураваныя пункт прыёму малака і вясковая святліца, уваходы да якіх засыпаны снегам.

Замінова, вэб-даведнік: „Wieś powstała w połowie XVI wieku jako Zamianowo, która to nazwa wiąże się z jej powstaniem. W latach 1549-1553 w ramach dzierżaw królewskich zostały zamienione pomiędzy magnatami dobra Sielec (w tym obecne tereny Zaminowa) na Suraż. Była to osada niewielka, jeszcze w 1580 w Zaminowie i Sielcu były tylko 4 uprawiane włóki. W 1921 roku liczyła 33 domy i 178 mieszkańców, w tym 10 prawosławnych".

У Далубове ўвагу прыцягвае драўляны будынак колішняга панскага двара з дзвюма сажалкамі перад ім; у адной з іх круглая выспа. Двор у Далубове быў закладзены ў пачатках XV стагоддзя; там, у 1877 годзе, нарадзіўся мастак Ігнацы Пяньукоўскі, выкладчык варшаўскай і кракаўскай мастацкіх акадэмій. Пасля вайны ў будынку двара працавала школа, якая на схіле перыяду камуны атрымала новы будынак, а двор вярнуўся ў прыватныя рукі. Зараз гэты помнік даўніны запушчаны. Мадэрны будынак новай далубоўскай школы, што пабудаваны ў цэнтры вёскі насупраць касцёла, не надта доўга служыў закладзеным асветным мэтам і цяпер у ім адбываецца заняткі працоўнай тэрапіі для няспелай моладзі з навакольных гмін. Цяперашні далубоўскі касцёл быў пабудаваны ў пачатку мінулага стагоддзя.

З Далубова падаўся я ў Тарговіск засыпанай снегам дарогай. Калісь быў там маёнтак Патоцкіх, а пасля вайны на яго аснове было створана калектыўнае гаспадарства. „Беластоцкая газета" так пісала ў пачатку 1956 года: „Z wolna zaczęły docierać do Targowiska wieści o tworzeniu się spółdzielni produkcyjnych. Wreszcie w listopadzie 1953 roku powstała tu spółdzielnia produkcyjna. Zespołową pracę rozpoczęto po żniwach 1954 roku. Wszyscy członkowie sumiennie i uczciwie zabrali się do pracy. Ziemia darzona troską wydała piękne plony. Spółdzielnia w Targowisku należy do rzędu tych, o których w okolicy mówią wszyscy z dużym uznaniem".

Гэтак было на паперы. Зараз Тарговіск выглядае так, як і большасць колішніх прапагандысцкіх „ластавак" светлай будучыні. Пустымі праёмамі зеўрае некалькі гаспадарчых будынкаў. Жылых будынкаў зусім няма. Тарговіск сёння з'яўляецца па сутнасці такім жа абязлюдзелым помнікам даўніны, як і намнога больш слаўныя егіпецкія піраміды ці культавыя збудаванні на Велікодным востраве. Толькі нашымі „цывілізацыйнымі здабыткамі" хіба ніхто не цікавіцца...

# Пікет чыгуначнікаў

**22 сакавіка адбылося XXVI пасяджэнне Сейміка Падляшскага ваяводства. У гэты дзень прафсаюзныя арганізацыі чыгуначнікаў, прадстаўнікі няўрадавых арганізацый і жыхароў Падляшскага ваяводства арганізавалі пікет перад будынкам Маршалкоўскай управы. З Чаромхі ў Беласток на адмысловым аўтобусе падалося больш за сорак пікетчыкаў.**

Арганізатарамі чаромхаўскага пікета былі Лявон Купрыцюк — старшыня Саюза машыністаў ПКП, Надзея Суліма — старшыня Гміннай рады і заадно старшыня таварыства „Прыязны транспарт", Мікалай Самасюк — радны Гміны, адданы справе чыгуначнік (па прафесіі дзяжурны станцыі). Ахвоту прыняць удзел у пікеце заявіла некалькі дзесяткаў чалавек. Збор назначаны быў на восьмую раніцы. Сабраліся пунктуальна. Арганізатары прыдбалі ўдзельнікам каляровыя сцяжкі і транспаранты з лозунгамі. У аўтобусе ўсе месцы былі заняты. Сярод пікетчыкаў прыкмеціў я 85-гадовага Юзафа Дубковіча — былога шматгадовага лідара Раённага праўлення Саюза польскіх пенсіянераў, радных — Гражыну Назарук з Вулькі-Тэрахоўскай і Мікалая Шатыловіча з вёскі Чаромхі, былога начальніка паравозната дэпо Мікалая Янчука, а таксама дзейсных дзяжурных, стрэлачнікаў, жыхароў Чаромхі і некалькі юнакоў — прадстаўнікоў школьнай моладзі.

Пікет перад Маршалкоўскай управай пачаўся ў 10:30. Пасяджэнне Ваяводскага сейміка мела распачацца ў 10:45. На пляцоўцы сабраўся шматлюдны натоўп са сцягамі „Салідарнасці" і транспарантамі з адмысловымі лозунгамі: „Усе ваяводствы ў чыгунку інвестуюць, а ў падляшскім скансэне чыгунку руйнуюць", „Маршалак чыгунцы забярэ і оперы дасць", „Цар чыгунку збудаваў, а маршалак яе зруйнаваў", „Еўропа чыгунку развівае, а Падляшскае — згортвае". Варта адзначыць, што пікетчыкі прытрымоўваліся закону і не скандальнічалі. Свой пратэст супраць ліквідацыі чыгуначных маршрутаў выказвалі працяжнымі гудкамі трывожнай сірэны, свісткоў і трубак. Перад адзінаццатай да пікетчыкаў выйшаў маршалак Яраслаў Дважанскі са сваім намеснікам Валянцінам Карыцкім, адказным за пасажырскія перавозкі (на здымку) . Шэф завадской „Салідарнасці" Ежы Гродзкі, перадаўшы петыцыю з сямі пунктаў, сказаў:

— Не хочам авантурніцтва, чагосьці, што ставіла б нас над грамадскі суд. Мы спасылаемся на перамовы і канкрэты. Чыгуначнікі патрабуюць яснай зразумелай палітыкі адносна чыгуначнага транспарту, а перш за ўсё функцыянавання рэгіянальных пасажырскіх перавозак. Патрабуем заключэння дамовы на чыгуначныя перавозы мінімум на дзесяць гадоў.

— Бюджэт ваяводскага самаўрада, гэта не толькі чыгунка і культура, гэта шмат іншых задач, якія вымушаны рашаць ваяводскі самаўрад, — сказаў маршалак Дважанскі. — На мадэрнізацыю чыгуначнай інфраструктуры і рухомы састаў выдаем шматлікія мільёны...



— Ды што нам за карысць з гэтага рухомага саставу, калі па суботах і нядзелях стаіць ён нявыкарыстаны, — усхвалявана папікнуў чаромхаўскі машыніст Славамір Саласцюк. — У Чаромху курсіруе адна пара цягнікоў. Школьнікі не маюць чым дабрацца ў Бельск у школы, а працаўнікі чыгункі — з'ехаць дамоў пасля дзяжурства. Якая нам карысць ад оперы, калі адмяняюцца цягнікі ў Чаромху — усхвалявана працягваў Славамір Саласцюк. — На чым даедзем?

— Чыноўнікі карыстаюцца службовымі аўтамабілямі, — у тым жа тоне выказаўся дзяжурны Мікалай Самасюк. — Маршалкоўская ўправа выдае 13 мільёнаў на пабудову оперы, гэта столькі, што ў год прызначае на рэгіянальныя перавозы ў маштабе ваяводства... Маршалкоўская ўправа сістэматычна вядзе непрыязную чыгунцы палітыку!..

Падтрымку для аргументацыі чаромхаўскіх пікетчыкаў дала ў кароткай прамове Надзея Суліма:

— Абмежаванне руху цягнікоў у Чаромху — гэта ізаляцыя чаромхаўскай грамадскасці ад ваяводства, таксама ўскладненне доступу да лекараў-спецыялістаў, паслугамі якіх карыстаюцца шматлікія пенсіянеры. На гэта чаромхаўскі самаўрад не пагаджаецца. Таму звяртаемся да Маршалкоўскай управы з просьбай аб грунтоўнае абмеркаванне нашых пастулатаў, за што будзем удзячны.

Выслухаўшы пікетчыкаў, маршалак Дважанскі папрасіў прабачэння, і разам з намеснікам Валянцінам Карыцкім падаліся на пасяджэнне Сейміка. Там у сваю чаргу паінфармаваў радных аб закончаным пікеце і зачытаў петыцыю.

— Разумею гэтых людзей, — гаварыў маршалак перад раднымі, — бо яны змагаюцца за месцы працы. Разумею іхнія эмацыянальныя выказванні, нараканні і заўвагі ў мой адрас. Яны — абгрунтаваныя. Для гэтага спатрэбіцца грунтоўнаная дэбата на тэму становішча чыгункі ў нашым рэгіёне.

Затым голас узяў шэф беластоцкай „Салідарнасці" Юзаф Мазалеўскі:

— Сённяшні пікет арганізавалі ўсе структуры чыгуначных прафсаюзаў і, як слушна заўважыў маршалак, быў гэта пікет жыхароў ваяводства. Для мяне асноўнай справай было тое, што людзі не прыйшлі з пастулатамі падбаўкі зарплаты, ці якіхсьці сабе прывілеяў, але прыйшлі дзеля таго, каб падтрымаць маршалка і радных. Іхнія пастулаты змяшчаюцца ў задачах, якія належаць дзяржаве. Я цешуся, што маршалак прыняў пастулаты, прад'явіў іх радзе і абяцаў, што ў форме дыялогу разам будзем гэтую праблему рашаць.

Па ацэнцы арганізатараў, у пікеце ўдзельнічала каля ста пяцідзесяці чалавек. Не прыкмеціў я паліцыі. Не было скандалаў і беспарадку. Размовы з маршалкам ваяводства праходзілі ў форме дыялогу і гэта цешыць. Аднак, як заявіў старшыня завадской „Салідарнасці" чыгуначнікаў Ежы Гродзкі, пікет будзе ўзноўлены, калі пастулаты Маршалкоўскай управай, арганізатарам чыгуначных рэгіянальных перавозаў у Падляшскім ваяводстве, не будуць рэалізаваны.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**




У той час, калі на беларускім папяровым медыя-рынку можна назіраць перманентную стагнацыю і адсутнасць сапраўднай канкурэнцыі, у шэрагах беларускіх інтэрнэт-выданняў назіраецца нешта кшталту бума. Так, у снежні 2012 года на старонках „Нівы" пісаў я аб новым часопісе „Брэйнсторм", што пачаў выдавацца у Празе былы кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч. І вось новае з'яўленне беларусаарыентаванага вэб-выдання, цяпер ужо з-за акіяна.

Інтэрнэт-часопіс „Сакавік", што з'явіўся ў сеціве ў сакавіку 2013 года, гэта яшчэ адна своеасаблівая спроба распавесці аб беларусах і Беларусі, прычым зрабіць гэта з берагоў возера Антарыо то-бок з Канады.

„Часопіс «Сакавік» заснаваны як незалежнае перыядычнае выданне, прызначанае для абмеркавання праблем беларускай культуры і развіцця беларускасці. Часопіс змяшчае аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаннях, маючых дачыненне да развіцця беларускай нацыі", — пішуць стваральнікі часопіса на першай старонцы „сакавіцкага" сайта.

Пры гэтым яны дадаюць, што на вэбсайце **www.sakavik.net** будуць таксама змешчаны тэматычныя старонкі з найбольш цікавымі матэрыяламі аб сучасным і будучым Беларусі.

Асноўнай мовай інтэрнэт-часопіса акрэслена беларуская, але „магчымы публікацыі і на іншых мовах".

Выгляд сайта на першы погляд даволі прывабны — уверсе назва сайта з падзагалоўкам „Мы з Беларусі". Ніжэй ідзе прыгожы здымак нейкага возера, якое акружае вялікая колькасць разнастайных будынкаў. Здымак ніяк не падпісаны, але наяўнасць на ім і царквы, і касцёла ўказвае на мясціны, дзе, праўдападобна, жывуць беларусы.

Адметна, што сайт мае дзве моўныя версіі. Праўда, яны не пераключаюцца праз нейкі гузік — кожная беларускамоўная старонка мае англамоўную стронку-дубль. Таму, нягледзячы, што рубрык на сайце спачатку падаецца не так ужо і мала, на самой справе іх толькі тры — „Пра часопіс", „Змест нумара" і „Кантакты".

Калі ў цікавага карыстальніка інтэрнэта хопіць жадання азнаёміцца са „Зместам нумара", то ён можа залічыць сабе ў актыў прачытаны першы нумар новага часопіса. Кажучы па шчырасці, зрабіць гэта не надта цяжка, бо „Сакавік" пакуль змяшчае нямнога артыкулаў. Іх усяго пяць. Прычым апошні артыкул — „Мой радавод" аўтарства амерыканскага эканаміста Леанарда Рыда і перакладзены на беларускую Віталём Воранавым увогуле невядома з якіх прычын з'явіўся ў інтэрнэт-часопісе, што пазіцыянуецца як выданне пра сучаснае і будучае беларускай нацыі.

Больш-менш цікавымі тэкстамі першага нумара „Сакавіка" з пункту гледжання „развіцця беларускасці" можна прызнаць артыкулы Пётры Мурзёнка „Шляхі да нацыянальнай дзяржавы", „Белорусская идентичность: ключевые факторы и спорные моменты" Галіны Туміловіч і „Несьвядомая небясьпека сьвядомасьці" Віталя Воранава.

Ці будзе „Сакавік" нечым сапраўды цікавым, арыентаваным на вялікае кола чытачоў-беларусаў у розных краінах, пакуль сказаць цяжка. З'яўленне наступнага яго нумара запланаванае на чэрвень.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Тварыў беларускую адукацыю

# 125 гадоў з дня нараджэння Яна Цеханоўскага



30 сакавіка 1888 г. у вёсцы Якімаўка на Гомельшчыне нарадзіўся беларускі педагог, заходнебеларускі дзеяч Ян Цеханоўскі. Паселішчаў з такой назвай некалькі, верагодна, што наш герой паходзіў з Рэчыцкага раёна. Біяграфія Цеханоўскага даследавана вельмі мала, а энцыклапедычныя даведнікі абмяжоўваюцца сціслымі звесткамі.

Вядома, што Ян Цеханоўскі скончыў Мінскую настаўніцкую семінарыю. Два гады вучыўся ў політэхнічным інстытуце ў Санкт-Пецярбургу. У 1909 г. у Менску ажаніўся з Ксеніяй Баландовіч. У 1914 г. скончыў адукацыю і працаваў выкладчыкам спецыяльных прадметаў. З 1 жніўня 1918 г. да 1921 г. быў дырэктарам рэальнай школы ў знакамітым мястэчку Ракаў. Як вядома, у 1921 г. была падпісана ганебная Рыжская дамова, якая падзяліла беларусаў тэрытарыяльна. Неўзабаве за нацыянальную патрыятычную дзейнасць Цеханоўскі быў арыштаваны тагачаснай польскай уладай. Пасля дастаткова хуткага вызвалення (дапамаглі руплівыя захады жонкі і сяброў) ён пераехаў у Навагрудак. З 1 верасня 1921 г. гэты педагог быў абраны бацькамі навучэнцаў дырэктарам Навагрудскай беларускай гімназіі. На пачатку былі створаны тры класы. Да слова, гэтая гімназія дала Беларусі мноства выдатных асоб, варта згадаць хоць бы знакамітага Барыса Кіта. Сярод выкладчыкаў было таксама нямала знакавых постацей — Пётр Скрабец, Антон Валынчык, Міхал Чатырка, Аляксандр Данілевіч, Язэп Драздовіч, Аляксандр Орса...

З-за чарговага пераследу Цеханоўскі быў змушаны эміграваць з Навагрудка ажно ў далёкую Францыю. Вярнуўся ў Заходнюю Беларусь толькі праз шэсць гадоў — у 1927 г. Пасля шматгадовай напружанай працы ў арганізаванай ім беларускай школе, дзе Цеханоўскі выкладаў беларускую мову і літаратуру ў старэйшых класах, ён быў пераведзены польскімі ўладамі ў Ашмяну. Там таксама не давалі спакойна працаваць. Супраць Яна Цеханоўскага была арганізавана гнюсная правакацыя. Падбухтораная банда хуліганаў напала на настаўніка і моцна яго збіла, зняважыўшы. 5 кастрычніка 1938 г. Цеханоўскі памёр ад інфаркту ў веку ўсяго 50 гадоў. Пахаваны ў Вільні на Ліпаўскіх могілках. Пазней каля яго знайшла апошні спачын і ягоная жонка Ксенія Баландовіч, верная паплечніца, таксама былая настаўніца гімназіі.

Памяць пра Яна Цеханоўскага, выдатнага настаўніка і беларускага патрыёта сёння фактычна нічым не ўшанаваная. Аляксей Анішчык у 1997 г. пад псеўданімам Андрэй Чэмер выдаў кніжку пра Навагрудскую гімназію, якую прысвяціў менавіта Цеханоўскаму. У Навагрудку шыльды ў гонар Цеханоўскага няма.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Мода на пахудзенне

Памаленьку, малымі крокамі набліжаецца вясна. І, як гэта бывае вясною, з'яўляецца мода на пахудзенне. Траціць на вазе кінаакцёры, спевакі, палітыкі, папулярныя ды звычайныя людзі ва ўсёй краіне. Худнее таксама дзяржбюджэт, худнеюць нашыя заробкі ў адносінах да цэн у магазінах, худнеюць таксама аб'явы аб працаўладкаванні. Наогул гэта сусветная, глабальная мода на страту вагі. Свайго часу я бачыў у тэлебачанні інтэрв'ю са студэнтам, які пераэкыў цэлы месяц за 20 злотых, таму гледзячы на студэнта нашыя палітыкі могуць сказаць: „Бярыце прыклад са студэнтаў". Яны ж ніколі не галодныя і нічога да шчасця не патрабуюць апрача ноўтбука ды інтэрнэту. Наконт інтэрнэту год таму былі забастоўкі ды супраціў студэнтаў наконт абмежаванай свабоды ў інтэрнэце ды ўвядзення ACTA (Міжнароднага пагаднення па барацьбе з кантрафактнай прадукцыяй). Дарэчы, для маладых інтэрнэт стаў важнейшай справай за павышэнне пенсіённага парога ці таго, што большасць абітурыентаў вышэйшых установаў пасля заканчэння навукі не мае працы. Сам я добра ведаю пра гэта, калі са снежня 2011 г. да красавіка 2012 г. быў я беспрацоўным. Зараз з гэтай праблемай змагаецца мая сястра — свежаспечаная магістар гуманітарнай установы. Большасць маіх знаёмых выехала за працай у Варшаву. Аднак мяне неяк не цягне ў сталіцу. Зусім нядаўна гасцявалі ў мяне сябар са студэнцкіх часоў з жонкай. Яны родам з-пад Гайнаўкі. Абое пасля заканчэння ўніверсітэта ў Беластоку выехалі ў Варшаву, дзе ўладкаваліся на працу ды там жывуць. „Юрка, не едзь у Варшаву! Гэта горад, дзе трэба мець хітры характар, бо інакш прападзеш". Дарэчы, яны думаюць вярнуцца ў Беласток, бо тут няма такой матэрыяльнай гонкі за грашом ды людзі лепшыя. Аднак я гляджу на Беласток і заўважаю, што апрача адноўленай дарожнай інфраструктуры, вуліц і старых камяніц у цэнтры, няма новых вялікіх заводаў, а пры тым канкрэтных аб'яў аб працаўладкаванні. Людзі з вышэйшай адукацыяй вымушаныя працаваць фізічна. Я сам працаваў у спажывецкім складзе, дзе ўладальнікам склада і фізічнымі працаўнікамі былі маладыя людзі з інфарматычнай, эканамічнай ды нават юрыдычнай адукацыяй! Во якую мы выйгралі дэмакратыю, каб магістар працаваў фізічна. Змагаліся за свабоду, але свабодай не накормішся. Трэба аплаціць кватэру, купіць харчовыя прадукты, вопратку. Дарэчы, харчпрадукты самыя дарагія. У Беластоку з месяца на месяц растуць цэны прадуктаў, а зарплаты ты ж самыя. Апошнім часам я паглядзеў, што ў Беластоку ёсць больш аб'яў аб працаўладкаванні для пенсіянераў і інвалідаў, чым для маладых, здаровых людзей. Сам я развозіў сваё прафесіянальнае рэзюме па розных заводах Беластока — без ніякага водгуку з боку работадаўцаў. На размовы аб працы запрашалі мяне толькі экспедытарскія кампаніі. Усе хацелі мяне прыняць на працу, толькі перашкодай было тое, што ў мяне няма вопыту ў такой працы. Дарэчы, усюды патрабуюць маладых людзей з 20-гадовым стажам працы. На самай справе лічацца знаёмствы. Думаю, што замест будаваць у Беластоку Оперу, патрэбны аэрапорт. Гэта дзякуючы аэрапорту была б большая магчымасць развіцця Беластока ў плане будовы новых заводаў, што спрычынілася б да таго, што маладыя не выязджалі б у іншыя гарады Польшчы за працай. Дарэчы, у Беластоку хутчэй выбудуюць новы камерцыйны цэнтр, чым аэрапорт або стадыён. Многія гавораць, што гэта такая спецыяльная палітыка ўрада, каб усе маладыя выехалі з Беласточчыны, старыя памруць, а нашыя беларускія вёскі засяляцца варшавякамі. І да гэтага ўсё ідзе.

**Юрка БУЙНЮК**

## Міхалоўская дэмаграфія

У Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета пражывае без дваццаці пяці сем тысяч асоб. За адзін год лік жыхароў паменшаў на 82 асобы: у 2012 годзе нарадзілася 60 дзяцей і памерлі 142 асобы.

У горадзе Міхалова зараз пражывае 3236 чалавек; у мінулым годзе нарадзілася 30 дзяцей ды памерлі 44 асобы.

Найбольшымі вёскамі ў Міхалоўскай гміне з'яўляюцца Новая Воля — 304 жыхары, Ялоўка — 265, Бандары — 253, Шымкі — 210, Навасады — 171, Казімярова — 164, Тапаляны — 152, Жэдня — 136, Саколе — 132, Геранімова — 126, Юшкаў Груд — 121, Кабылянка — 117, Цісоўка — 91, Пянькі — 74, Мастаўляны — 73, Масціска — 64 і Азяблы — 61 жыхар.

У 2012 годзе найбольш дзяцей нарадзілася ў Міхалове — 30, у Азяблах і Кабылянцы па трое ды ў Юшкавым Грудзе, Новай Волі, Навасадах і Шымках — па двое.

У мінулым годзе найбольш людзей памерла ў Міхалове — 30, у Ялоўцы — 12, у Шымках, Навасадах і Цісоўцы па сем ды ў Казімярове і Старой Луплянцы па чатыры чалавекі. У сямі вёсках памерлі па тры чаласекі. Найхутчэй пусцеюць вёскі Ялоўка, Цісоўка, Навасады, Шымкі і Старая Луплянка. У нябыт адышла вёска Калітнік.

Зараз адзін чалавек жыве ў вёсцы Буды, па двух жыхароў маюць Бярэзіна і Новыя Кухмы, па трох — Ганчары, Курылы і Такароўшчына, па чатырох — Крукоўшчына і Старыя Кухмы, пяць — Пулька, па шэсць Раманава і Сахаркі, сем — Гарбары, восем — Займа, дзевяць — Майдан, ды па дзесяць Кавалёвы Груд і Калясное. У гэтых вёсках толькі паховіны або застой на кароткі час.

Сёлета ў Міхалоўскай гміне каля дзесяці пар будуць адзначаць „залатое вяселле" — пяцідзесяцігоддзе шлюбнага сужыцця.

У гміне ёсць і старажылы, якім звыш ста гадоў. Шкада, што кіраўнічка загса Агнешка Анціпюк засакрэчвае іх прозвішчы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## ЗАПРАШЭННЕ

**З цыкла: расказы аб... літаратуры**

**Сустрэча з гайнавянінам д-рам Радаславам Раманюком,**
аўтарам кніжкі «Іншае жыццё: Біяграфія Яраслава Івашкевіча».

5.04.2013 г. (пятніца),
гадз. 18:00.
Цэнтр прамоцыі рэгіёна «Чарлёнка», Гайнаўка,
вул. Т. Саланевіч, 2.

**Сардэчна запрашаем!**

## СПАЧУВАННІ

З глыбокім смуткам паведамляем, што 21 сакавіка 2013 г. на 79 годзе жыцця памёр наш шматгадовы карэспандэнт

**Мікалай Лук'янюк.**

Словы шчырага спачування **блізкім** Нябожчыка з прычыны напаткаўшага **іх** гора перадае рэдакцыйны калектыў „Нівы".

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. фірма, дзе б'юць жывёлу на мяса = 38 _ 32 _ 33 _ 34 _ 28 _;
2. невялікая рыба сямейства акунёвых = 1 _ 21 _ 42 _;
3. колер шэрсці ў жывёл = 15 _ 43 _ 44 _ 45 _ 46 _;
4. цагляная або каменная сцяна = 25 _ 24 _ 31 _;
5. антонім верху = 26 _ 37 _ 23 _;
6. святарскае аблачэнне = 11 _ 27 _ 10 _ 12 _;
7. спосаб бегу каня з драпежнага сямейства кашэчых = 6 _ 7 _ 2 _ 4 _;
8. процілеглая падлозе = 29 _ 30 _ 39 _ 40 _ 41 _;
9. звычаі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне = 5 _ 8 _ 9 _ 13 _ 14 _ 3 _ 35 _ 36 _;
10. месца тугі па радзіме = 18 _ 16 _ 17 _ 19 _ 20 _ 22 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 |
| | | | | | | | | 37 |
| 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Язык, Дэга, серп, ёлка, ацёк, ліха, ям, водар, хлюпат, сабатаж, сто, спіраль, націск.

Рашэнне: **Слёзы гэта ціхая мова болю і радасці**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# 31.03 — 06.04

**(22.03. — 20.04.)** 1-4.04. выйдзі насустрач зменам. Да 15.04. задбай аб сваю красу. Многа нагод для фліртаў і раманаў. Дыета з гарантыяй Венеры! У справах кар'еры не спрачайся, асабліва з шэфам. У панядзелак не адбівайся ад свае ўдачы — можаш штосьці здабыць. У суботу можаш атрымаць фальшывую інфармацыю.

**(21.04. — 21.05.)** Красавік сплятае каханне і выдаткі. Ды ўсё пад шчаслівай зоркай. Пакуль адкладзі важныя рашэнні наконт твайго асабістага жыцця. У пачуццях мілае асвойванне. У сям'і блізкія кантакты з неспадзяванкай. У аўторак добры час пачаць будаўніцтва, рамонт.

**(22.05. — 22.06.)** 1-04.04. заінвестуй у сябе; добры час на навуку і добрыя кнігі. Самотныя Блізняты пачнуць падчапляць файныя пары. Маеш шанц пахудзець (асабліва калі ты нарадзіўся 4-8.06.). Ты перапоўнены энергіяй прынамсі ў першай палове красавіка. Будзеш працаўніком месяца, ды заробкі будуць пасля.

**(23.06. — 23.07.)** Шанцы на новае каханне. У сям'і штораз лепшыя надзеі. Крыху меланхалічна, дык схочацца асалод (не кідайся на смакоцце, бо хутка можаш папаўнець). На працы можаш заангажавацца ў штосьці, што вырве цябе са старых каляін (не будзеш шкадаваць). Планеты падсунуць табе людзей адкрытых, цікавых, настаўленых на развой. 2-3.04. адчуеш самоту і незразуменне; не паспрачайся.

**(24.07. — 23.08.)** Рамантычныя кліматы. Аж да 15.04. спрыяльны негацыяцыям час; шанцы на карысныя дамовы. Ільвы з 2-6.08. будуць пад уплывам планет сілы, трансфрамацыі іператварэнняў; можаш рабіць усё важнае, што патрабуе высілку (увесь красавік). 1-3.04. можаш мець страты; не мяркуй неабдумана; не перанатужвайся.

**(24.08. — 23.09.)** Будуць цябе здабываць. Ды пільнуйся ад даўніх каханняў (асабліва Дзевы народжаныя перад 28.08.). Халодная галава паможа выкараскацца з кожнай сітуацыі. 4-6.04. адпачывай, пакарыстайся араматэрапіяй. А энергіі хопіць табе ад жа 25.04.! Са спальні выкінь будзільнік. Слухай іншых, рабі па-свойму.

**(24.09. — 23.10.)** У першай палове месяца будзеш натхнёны новымі задумамі. Вясна — добры момант на змены. Адвага будзе далей ім спрыяць. З 5.04. знакаміта дагаворышся з іншымі. Удалыя паездкі і знаёмствы. Будзеш крыху баяцца, што схуднее твой кашалёк, ды калі будзеш добра працаваць і выкарыстаеш усе нагоды, у касе будзе прыбываць неспядзявана!

**(24.10. — 22.11.)** Перад табою многа шанцаў і нагод. Не дазволь, каб змарнаваў іх табе кепскі настрой. Знакамітая форма, сустракайся са знаёмымі, і прыкладзіся да работы. 2-6.04. будзеш здольны да вельмі вялікага высілку; амаль усё табе ўдасца. Ды лепш ва ўсім будзь асцярожны, асабліва 1-3.04. не вырашай неабдумана; поспех у адной сферы не мусіць прадвяшчаць поспеху ў іншай.

**(23.11. — 22.12.)** 1-5.04. удачы і шчасце амаль ва ўсіх галінах. У першай палове месяца будзеш шчодры асабліва для дзяцей; добра складуцца адносіны з супрацоўнікамі. Час спрыяе адважным рашэнням. Ідзі ўперад, ды памятай аб дыпламатыі.

**(23.12. — 20.01.)** Вельмі пільнуйся з тым, што ясі 1-10.04. З 5 (да 09.04.) Марс спрыяе здзяйсненню ў пачуццях; маеш шанц здабыць тое, за чым тужыш. Новае каханне лепшае ад успамінаў! Энергія і моцнае пачуццё прагі поспеху. Маеш шанц, што калі моцна возьмешся, усё ўдасца.

**(21.01. — 19.02.)** Чакае цябе шмат добрага, калі толькі не змарнуеш гэтага спрэчкамі. З 5.04. змадыфікуй сваю дыету (не галадай!), добра высыпайся. Афармляй важныя справы (да 10.04.). Асабліва дзве першыя дэкады не спрачайся з братамі ды сёстрамі. Нейкім цудам на плюсе з грашыма ўвесь месяц.

**(20.02. — 21.03.)** Добры час на службовыя падарожжы. Ды добра пільнуй кашалька. Пасля бурлівага пачатку красавіка з 5.04. шанцы на паправу. У першай палове месяца будзеш адчуваць сябе вельмі добра, нават калі будзеш жыць у напрузе. Не будзь лішне крытычным у адносінах да сям'і.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.iig.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.

**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

Ганна КАНДРАЦЮК

# Лондан: уік-энд у дажджы і нарцысах

— Ну і як было ў тым Лондане? — спыталі нас пасля вяртання ў Беласток. На пытанне можна адказаць адным словам:

— Было *святова!*

Са сталіцы Вялікабрытаніі вярнуліся мы акрыленыя, з вышэйшай самаацэнкай, з новымі кантактамі, крыху ўжо вясновыя. Наша *беластоцкая дэлегацыя* — такую брошку прышпілілі нам яшчэ да прыезду ў Лондан арганізатары — была прыкмечана і расхвалена ў рэцэнзіях.

Тут мусова дадаць, што паехалі мы на літаратурнае мерапрыемства, каб у днях 16-17 сакавіка гэтага года прыняць удзел ва „Еўрапейскіх паэтычных дыялогах" і музычна-паэтычным свяце „Прыгожыя людзі — паэты маёй эміграцыі"...

Нашая дэлегацыя ў саставе Міра Лукша, Дыяна Нахіла і Ганна Кандрацюк падалася, а лепш сказаць паляцела, па запрашэнні аніматара паэтычнага руху ў Вялікабрытаніі, паэта і мастака, заснавальніка руху „PoEzja Londyn" Адама Сяменчыка, родам з нашага Гарадка.

* * *

Праўда, сярод нашай тройцы была адна паўнакроўная паэтэса Міра Лукша, якая ўжо ў час першай аўтапрэзентацыі заявіла пра сябе: *Jestem największą poetką w Europie Środkowej, co widać gołym okiem...*

Апошні намёк датычыў, як кажуць на Сакольшчыне, яе *незаценкасці*... Аўтаіронія была адразу дацэнена і ўзнагароджана бурнымі воплескамі. Міра прыехала ў Лондан са сваім новым, намінаваным да прэміі Казанэцкага, польскамоўным томам *Biały stok*. Здавалася б, ніякая экзотыка не павінна ўжо ўразіць Лондан. У метраполіі, пяць разоў большай за Варшаву, жывуць прадстаўнікі ўсіх народаў свету. На вуліцы, і хутчэй за ўсё ў метро, можна пачуць размовы на трохстах мовах. Таму нам было прыемна, што найбольш спадабаліся беларускія вершы Міры і мае падляшскія песні з роднай Кутлоўкі. І нас хвалілі, вядома, не за экзотыку, а за талент і дасягненні! Мяне асабіста ўразіла талерантнасць для розных узроўняў літаратуры, культ асобы паэта і сапраўдная вера ў пісанае слова. Тут трэба дадаць, што прысутнічалі мы ў мерапрыемстве, зладжаным палякамі-эмігрантамі. З перспектывы адлегласці і цывілізацыі нашае суседства тут спрацавала ў пазітыўны міжкультурны дыялог, добрыя знаёмствы, сардэчнасць... Але пра гэта ў іншым месцы...

* * *

Наш палёт ад пачатку быў выстаўлены на цяжкія выпрабаванні і ў нармальным выпадку ніхто нікуды не збіраўся б. Справа ў лагістыцы, якая ад пачатку мела спантанны, часам кашмарны характар. Каб апынуцца сярод прыгожай літаратурнай кампаніі, трэба быць багатым — рэдкі прызнак сярод літаратараў! Запрошаныя госці былі вымушаны купіць білет на самалёт, жыць ды перамяшчацца па Лондане на свой кошт і яшчэ хваліць арганізатараў ды лічыць гэта сваім шчасцем. Карацей, з *цэлай абяцанай* Еўропы прыехала толькі адна спявачка з Украіны і лічаныя, здаецца пяць асоб, з Польшчы. Тым не менш на паэтычныя мерапрыемствы з'явіліся ў вялікай колькасці літаратары і слухачы. На сённяшні дзень у Вялікабрытаніі і Ірландыі жыве ўжо два з паловай мільёны палякаў, што перавышае насельніцтва ўсёй Латвіі ці Эстоніі.

Наша падляшская тройца падалася на літаратурнае свята, каб там паказаць і адначасова падтрымаць Міру Лукшу, якая цягам апошніх двух гадоў, як ільвіца, змагаецца з цяжкай хваробай. Як вялікія (таксама *незаценкія*) паклонніцы яе таленту, мы разам з Дыянай прапанавалі нашай паэтэсе сябе ў якасці целаахоўніц і перакладчыц. Прапанова была прынята з энтузіязмам, таму пасля, калі з'явіліся праблемы арганізацыйнага кшталту, разам было лягчэй вырашаць справы... Магчыма і таму наша вандроўка атрымалася лепш чым чакалі.

* * *

У час падарожжа ў Лондан я падумала пра нашу падляшскую камунікацыю. Аказваецца, намнога лягчэй дабрацца з Беластока ў сталіцу Вялікабрытаніі чым у нашае Арэшкава ці Забалацце. Палёт на самалёце трывае дзве гадзіны і пяць хвілін. Дзякуючы канкурэнцыі паміж авіялініямі, білет на самалёт у два бакі можна купіць ужо за трыста з лішнім злотых. Таксама ў Варшаву можна дабрацца за дзесяць злотых (з фірмай „Польскі бус"). Словам, трэба лётаць. Больш раскашэліцца трэба на месцы — кошт звязаны з гарадской камунікацыяй на працягу чатырох дзён гэта семдзесят фунтаў (трыста пяцьдзесят злотых). Затое купля білетаў у метро — прыемны занятак. Да чаргі, якая выстройваецца да касавага акенца, падыходзяць працаўнікі і прапануюць дапамогу. Яны падкажуць як купіць білет у аўтамаце. Мы былі пазітыўна ашаломлены, калі нам прапанавалі іншы пакет, чым мы раней планавалі, прытым мы здорава заашчадзілі. Пасля яшчэ ўразіла нас спантанная схільнасць да дапамогі. Калі ў метро аднаму дзядзьку пасыпаліся са жмені грашакі, людзі, якія стаялі навокал, вокамгненна схіліліся, паднялі драбніцу і з усмешкай на твары аддалі чалавеку. Праз момант я ўявіла гэтую акцыю дапамогі ў сталіцы Падляшша. Ці нехта схіліўся б збіраць чужыя рассыпаныя грашакі? Таксама сам пацярпелы не хацеў бы такога — ён адразу падумаў бы, ці яму вернуць назад гэтую няшчасную драбніцу...

*(працяг будзе)*



Фота Дыяны Нахілы

На еўрапейскіх паэтычных дыялогах у лонданскім універсітэце


Фота Дыяны Нахілы

Ганна і Міра перад Вестмінстэрскім абацтвам


Фота Дыяны Нахілы

Міра і Ганна рады вясне!


Фота Ганны Кандрацюк

Дыяна, Міра і Біг-Бен

ISSN 0546-1960